ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№5
(2511)

30 студзеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

# КРОКІ, ВЕЛЬМІ НЕАБХОДНЫЯ ДЛЯ ГРАМАДСТВА...

### *Адказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча ЛУКАШЭНКІ на пытанні газеты «Вашынгтон Таймс»*

**Пытанне.** Пан Прэзідэнт! Першыя два гады вашага прэзідэнцтва былі адзначаны няспыннай барацьбой паміж вамі і парламентам. Што ляжала ў аснове гэтага канфлікту?

**Адказ.** У аснове канфлікту былі дзве прычыны. Першая — недасканаласць Канстытуцыі. Дэкларуючы, што Прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, кіраўніком выканаўчай улады, Вярхоўным галоўнакамандуючым і нясе адказнасць за справу ў краіне, яна пазбаўляла Прэзідэнта рычагоў кіравання, адначасова надзяляючы неабмежаванымі паўнамоцтвамі парламент.

Другая прычына процістаяння — непрымірымая, я нават сказаў бы, варожая пазіцыя часткі дэпутатаў у адносінах да Прэзідэнта і палітыкі, якую ён праводзіць. Многія з іх былі прама або ўскосна звязаны з карумпаванымі камерцыйнымі структурамі, лабіравалі іх інтарэсы ў парламенце. Перашкодай гэтым імкненням стаў Прэзідэнт. Не маглі мне дараваць дэпутаты і тое, што я выступіў катэгарычна супраць шэрагу наебгрунтаваных прывілей, якія яны ўзаконілі для сябе.

Такое становішча не магло працягвацца бясконца. Адзінае выйсце з яго было ва ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, што дало б магчымасць аднавіць аптымальны баланс паміж галінамі ўлады.

Акрамя таго, унясенне змяненняў у Канстытуцыю было неабходна і таму, што час выявіў у ёй недахопы і недапрацоўкі, якія сталі істотным тормазам у рэфармаванні эканомікі, развіцці сацыяльнай сферы, руху краіны наперад па ўсіх напрамках. Словам, перамены наспелі даўно, і я зрабіў захады, балючыя для парламентарыяў, але вельмі неабходныя для грамадства, для нармальнага функцыянавання ўлады. Для гэтага быў выбраны найбольш дэмакратычны метад — рэферэндум.

Менавіта народ — адзіная канстытуцыйная крыніца ўлады, павінен быў вызначыць круг паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы, парламента, урада, Канстытуцыйнага суда. І народ на рэферэндуме падтрымаў Прэзідэнта. За праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, прапанаванай Прэзідэнтам, прагаласавала 70,5 працэнта выбаршчыкаў, за праект Канстытуцыі, прапанаванай парламентам, — 7,9 працэнта.

**Пытанне.** Ці можаце вы ў прынцыпе дапусціць выкарыстанне сілы супраць парламента па тыпу таго, як гэта было зроблена ў Расіі ў кастрычніку 1993 года?

**Адказ.** Я не прымаю саму магчымасць выкарыстання ўзброенай сілы для вырашэння ўнутрыпалітычнага канфлікту.

Гэтага ніколі не прыме беларускі народ — па свайму характару памяркоўны і міралюбівы. Ён ніколі не падтрымае гвалтоўныя дзеянні дыктатара, якімі б лозунгамі ён ні прыкрываўся. Людзі хочуць спакойна жыць і працаваць, выхоўваць дзяцей, быць упэўненымі ў заўтрашнім дні. І жорсткае процістаянне галін улады, нагнятанне страсцей і эмоцый наш народ не прымае.

Менавіта такое разуменне імкненняў і спадзяванняў беларускага народа ляжыць у аснове маёй практычнай дзейнасці як Прэзідэнта. Чуткі аб быццам бы рыхтуемых сілавых акцыях выканаўчай улады, якія перыядычна распаўсюджваюцца, з'яўляюцца проста выдумкай. Гэтага вельмі хацела непрымірымая апазіцыя, якой для дасягнення сваіх мэтаў патрэбны крывавыя сутыкненні.

Я ніколі на такія дзеянні не ішоў, не пайду і ў далейшым. Для мяне самае галоўнае — захаваць спакой, мір і стабільнасць у нашым грамадстве.

**Пытанне.** Многія за Захадзе лічаць, што, абапіраючыся на выніку лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, вы разагналі парламент і фактычна сталі дыктатарам краіны. Як бы вы адказалі на такую крытыку?

**Адказ.** Такая крытыка можа

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Гомель. Прывакзальная плошча. Новы прыгарадны вакзал, пабудаваны ў 1996 годзе.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## НАВУКОВЫ ПОШУК



# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

У жыцці нашага класіка Дуніна-Марцінкевіча шмат нявысветленага, часам дзіўнага, парадаксальнага. Вядома, напрыклад, што перад паўстаннем 1863 года ўлады падазравалі яго ў напісанні антыўрадавых праткламацый. Ды ён і сапраўды быў блізкі да вызваленчага руху (новыя звесткі аб яго палітычнай заангажаванасці былі ў нашай публікацыі "Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч?" ЛіМ, 2—9 жніўня 1996 г.). Аддаюцца загады аб яго арышце. Пісьменніка ўзмоцнена расшукваюць па ўсёй Беларусі, пакуль не арыштавалі ў кастрычніку 1864 года ў мястэчку Свір Свянцянскага павета (цяпер Мядзельскі раён). На следстве высветлілася, што ён пакінуў родную Люцынку ў красавіку 1863 года, калі на Беларусі пачалося агульнае ўзброенае паўстанне, але да паўстанцаў — па ўсім відаць — не далучыўся, не прымкнуў, а ўзяў у арэнду маёнтак Дабраўляны нейкай памешчыцы Бучынскай і ціха пражыў там да пачатку наступнага года. Пасля секвестру Дабраўлянаў перабраўся ў Свір, дзе жыў да самага арышту.

Усе гэтыя падрабязнасці сталі вядомыя са следчай справы пісьменніка, знойдзенай у свой час у гістарычным архіве ў Вільні. Пра гэта мы пісалі ў кнізе "Сейбіты вечнага" (1963), матэрыялы следчай справы ў даволі поўным выглядзе апублікаваны ў зборніку "Пачынальнікі" (1977).

Тады мы не ведалі, што Дабраўляны не які-небудзь ардынарны памешчыцкі маёнтак, а надзвычай цікавы культурны асяродак, звязаны з многімі выдатнымі людзьмі той эпохі. Прынамсі, не знаў гэтага я, бо асобныя згадкі Дабраўлянаў у гэтым аспекце ўсё-такі былі, як цяпер відаць, у А. Мальдзіса, Л. Дробава, трымалі гэты куток навідавоку і гісторыкі садова-паркавага мастацтва.

**(Працяг на 7-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА: СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТАЎ*



17 студзеня 1997 года ў Гомелі адбылася рабочая сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі і Прэзідэнта Украіны Л. Кучмы, у ходзе якой праведзены абмен думкамі па шырокаму колу пытанняў развіцця двухбаковых адносін і шэрагу міжнародных праблем, што маюць узаемную цікавасць.

У рамках рабочай сустрэчы адбыліся гутаркі кіраўнікоў галіновых міністэрстваў і ведамстваў дзвюх краін. Кіраўнікі дзяржаў і члены афіцыйных дэлегацый наведалі вытворчае аб'яднанне "Гомсельмаш", дзе агледзелі прадпрыемства і азнаёміліся з арганізацыяй вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі.

У ходзе рабочай сустрэчы падпісаны важныя дакументы. Прэзідэнты азнаёмілі адзін аднаго з унутрыпалітычнай сітуацыяй у сваіх краінах, ходам рэалізацыі эканамічных рэформ.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка інфармаваў Прэзідэнта Украіны Л. Кучму аб функцыяніраванні Супольніцтва Беларусі і Расіі, прынятых у яго рамках рашэннях і перспектывах развіцця.

У ходзе візіту ўдзялялася ўвага пытанням дзейнасці міжнародных арганізацый, праваздзення адпаведных кансультацый.

Адбыўся абмен думкамі па пытаннях стану і перспектыў развіцця Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Бакі высока ацанілі вынікі сустрэчы, падкрэслілі важнасць правядзення рэгулярных кансультацый на вышэйшым узроўні.

НА ЗДЫМКУ: прэзідэнты А. ЛУКАШЭНКА і Л. КУЧМА ў час падпісання камюнікэ.

*ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА ДЗЯРЖАВЫ*

## БЕЛАРУСЬ КІРУЕЦЦА ПРЫНЦЫПАМ ШМАТВЕКТАРНАСЦІ

21 студзеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў на расшыраным пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў, на якім прысутнічалі вышэйшыя службовыя асобы краіны.

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, у сваім выступленні ён падкрэсліў, што Беларусь будзе цвёрда ісці па шляху інтэграцыі з Расіяй на аснове справядлівага ўліку інтарэсаў дзвюх дзяржаў. Прэзідэнт адзначыў, што нельга ператвараць беларуска-расійскія адносіны ў прадмет безадказных спекуляцый, як гэта робяць некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі.

Кіруючыся прынцыпам шматвектарнасці, Беларусь, паводле яго слоў, будзе развіваць узаемавыгаднае супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі, і перш за ўсё з суседнімі.

Прэзідэнт указаў на нявыкарыстаныя магчымасці ў развіцці гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва з Украінай, якая з'яўляецца другім пасля Расіі эканамічным партнёрам Беларусі.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў дасягненні ў мінулым годзе прагрэс ва ўзаемаадносінах з Францыяй, Турцыяй і Кітаем, а таксама паспяховае развіццё эканамічнага супрацоўніцтва з Германіяй. Беларусь, падкрэсліў ён, зацікаўлена ў дасягненні ўзаемаразумення і прагрэсу ў супрацоўніцтве з Еўрапейскім саюзам і краінамі, што ўваходзяць у яго, Злучанымі Штатамі Амерыкі і іншымі дзяржавамі.

На пасяджэнні калегіі была пацверджана прынцыповая пазіцыя Беларусі па праблемах міжнароднай бяспекі. Беларусь і ў далейшым будзе настойліва выступаць за стварэнне ў цэнтры Еўропы прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі.

*ГАТОВЫ РАЗВІВАЦЬ ДЗЕЛАВЫЯ АДНОСІНЫ*

## ІНТЭРВ'Ю НЯМЕЦКАМУ ЧАСОПІСУ

24 студзеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка даў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкага часопіса "Усход" Брыцэ Воленвэбер.

Часопіс выдаецца ў Кёльне. На яго старонках асвятляюцца пытанні палітыкі, эканомікі і культуры ў краінах СНД. Рэгулярна выходзяць дадаткі да часопіса, прысвечаныя асобным дзяржавам Садружнасці.

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, адказваючы на пытанні нямецкай журналісткі, А. Р. Лукашэнка расказаў аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне, ходзе дэмакратычных пераўтварэнняў, развіцці інтэграцыйных працэсаў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй, іншымі краінамі СНД.

Прэзідэнт адзначыў, што Беларусь гатова развіваць дзелавыя, партнёрскія адносіны з усімі дзяржавамі свету.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ВЫКАНАНЫ Ў ПОЎНЫМ АБ'ЁМЕ

Сваю першую афіцыяльную прэс-канферэнцыю першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Пётр Пракаповіч прысвяціў эканамічным вынікам рэспублікі за 1996 год і стану нашай эканомікі на цяперашнім этапе. У гутарцы з журналістамі ён назваў вынікі мінулага года пазітыўнымі ўжо таму, што быў выкананы ў поўным аб'ёме Указ Прэзідэнта Беларусі "Аб асноўных прагнозных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі за 1996 год".

Адказваючы на пытанні, першы намеснік прэм'ер-міністра растлумачыў, якая будзе валютнакрэдытная і крэдытна-грашовая палітыка рэспублікі ў рамках саюза Расіі і Беларусі. Так, беларускі бок ужо прапрацаваў частку пытанняў па гэтым аспекце і афіцыяльна звярнуўся ў Цэнтрабанк Расіі, з тым каб пачаць перагаворы аб прывязцы курса беларускага рубля да расійскага. Прывязка гэтая з'яўляецца натуральнай, таму што Расія — наш асноўны знешнегандлёвы партнёр. Больш як 52 працэнты экспартна-імпартных аперацый наша рэспубліка праводзіць з расійскім бокам. За гэтым працэсам будуць перагаворы па ўмовах унутранай канвертоўнасці беларускага рубля на тэрыторыі Расіі і расійскага — на тэрыторыі Беларусі.

*АМЕРЫКАНЕЦ З ПАРАШУТАМ*



Ваенны аташэ пасольства ЗША ў Беларусі маёр Роберт Хэнд наведаў 317-ю асобную мабільную брыгаду ў Віцебску. На працягу трох дзён амерыканец знаёміўся з працэсам паветрана-дэсантнай падрыхтоўкі беларускіх ваенных і нават скакаў з парашутам.

НА ЗДЫМКУ: Роберт ХЭНД (у цэнтры) гутарыць са спецыялістамі брыгады.

*У «ЦЕНЯВЫМ КАБІНЕЦЕ»*

## ПАРАДЫ ДЛЯ ЎРАДА

У штаб-кватэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі адбылося першае пасяджэнне Нацыянальнага эканамічнага савета (грамадскага-кааліцыйнага ўрада), на якім разглядалася пытанне адносна рэзкага пагаршэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі.

Дакладчыкі Іван Нікітчанка і Аляксандр Сасноў вымушаны былі канстатаваць: за апошнія паўгода ў краіне моцна павялічыўся дэфіцыт харчавання, што звязана з развалам сельскай гаспадаркі. Адначасова цэны на прадукты спажывання выраслі на 40—50 працэнтаў. Прычыну такога надзвычай складанага становішча Нацыянальны эканамічны савет бачыць не толькі ў глыбокім эканамічным крызісе, які ўсё больш ахоплівае краіну, але і ў непрафесіянальнай дзейнасці беларускага кіраўніцтва. У сваім рашэнні НЭС лічыць неабходным рэарганізаваць сістэму падаткаабкладання сельскагаспадарчых вытворцаў у бок яе спрашчэння, змяніць парадак цэнаўтварэння, ліквідаваўшы пры гэтым пасрэдніцкіх суб'ектаў, знізіць памеры мытных пошлін, адмяніць практыку адміністрацыйнага кіравання курсам нацыянальнай валюты і беспадстаўнай эмісіі грошай. Акрамя таго, НЭС лічыць мэтазгодным патрабаваць ад урада павышэння ў лютым мінімальнай заработнай платы да 200 тысяч рублёў.

Да работы грамадскага кааліцыйнага ўрада далучыліся прадстаўнікі яшчэ трох палітычных партый: Сялянскай, Хрысціянска-дэмакратычнай партыі і Партыі здаровага сэнсу.

*АМНІСТЫЯ*

## НА ВОЛЮ... НЯМА Ў ЧЫМ

122 жанчыны вызвалены са зняволення па Закону аб амністыі з адзінай у Беларусі Гомельскай жаночай папраўча-працоўнай калоніі. Яшчэ каля паўтысячы нявольніц чакаюць рашэння назіральнай камісіі і канчатковага вердыкта суда.

Ды бяда ў тым, што на волю няма ў чым выйсці: многія жанчыны не маюць цёплага адзення і абутку. На іх набыццё няма сродкаў.

*ТУРАЎСКІ ГАРОШАК*



Зялёны гарошак выдатнай якасці сталі выпускаць у Тураве. Праўда, на прылаўках мясцовых магазінаў ён з'яўляецца рэдка, больш ідзе на бартэрныя здзелкі для ўкамплектавання кансервавага завода ўсім неабходным, на пагашэнне даўгоў, на набыццё унікальнага англійскага камбайна, каб збіраць гарошак. Але тураўчане спадзяюцца, што гэтыя цяжкасці часовыя, а прадукцыя завода будуць карыстацца мясцовыя жыхары.

НА ЗДЫМКУ: тураўскі гарошак гатовы да адпраўкі.

*ДЭМАГРАФІЯ*

## КУДЫ ІДЗЕМ?

За год насельніцтва Беларусі скарацілася на 0,3 працэнта. Як паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі Рэспублікі Беларусь, колькасць насельніцтва Беларусі на 1 студзеня 1997 года склала 10 282 тысячы чалавек. На 37,8 тысячы перавышае колькасць памерлых за год над народжанымі.

На 5,1 працэнта скараціўся агульны каэфіцыент нараджальнасці. Таксама зменшылася колькасць жадаючых уступіць у шлюб. У 1996 годзе іх колькасць у параўнанні з папярэднім годам скарацілася на 17,3 працэнта. Колькасць разводаў вырасла на 2,2 працэнта. На 1 000 зарэгістраваных шлюбаў — 675 разводаў. Самыя нямоцныя сем'і — у сталіцы рэспублікі, дзе на 1 000 шлюбаў — 778 разводаў.

Самая высокая смяротнасць адзначаецца ў Гомельскай вобласці — 1,7 працэнта. Галоўнай прычынай яе з'яўляюцца хваробы.

*СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ*



Самая вялікая атара ў нашай рэспубліцы, відаць, у калгасе "Дружба" Ляхавіцкага раёна. Налічвае яна тры з паловай тысячы авечак і прыносіць гаспадарцы немалы прыбытак. У мінулым годзе гаспадарка атрымала паўтара мільярда рублёў.

НА ЗДЫМКУ: Марына РУСАКЕВІЧ — адна з лепшых авечкаводаў калгаса.

# КРОКІ, ВЕЛЬМІ НЕАБХОДНЫЯ ДЛЯ ГРАМАДСТВА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

быць толькі па дзвюх прычынах. Або з-за няведання рэальнай сітуацыі ў Беларусі, у што я, шчыра кажучы, не вельмі веру. Або, што, на мой погляд, бліжэй да ісціны, наўмысна, з мэтай увесці ў зман грамадскую думку і лідэраў заходніх краін, ставячы пры гэтым далёкасяжныя палітычныя мэты.

Вярхоўны Савет ніхто не разганяў. Легітымная большасць Вярхоўнага Савета зацвердзіла вынікі рэферэндуму. У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі 110 дэпутатаў з ранейшага саставу парламента прыйшлі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Менавіта тыя дэпутаты, якія паставілі інтарэсы дзяржавы, інтарэсы сваіх выбаршчыкаў вышэй за палітычныя амбіцыі і дробязныя крыўды.

Таму я звяртаюся да заходніх палітыкаў з заклікам аб'ектыўна разабрацца ў тым, што адбываецца ў нашай краіне, не паддавацца эмоцыям, не верыць розным ілжывым заявам аб тым, што рэферэндум у Беларусі нелегітымны, незаконны. Народ выказаў сваю пазіцыю па пытаннях, ад вырашэння якіх залежыць усё наша далейшае жыццё, і я павінен буду забяспечыць выкананне яго волі.

**Пытанне.** Ці лічыце вы існуючы баланс уладаў — паміж выканаўчай, заканадаўчай і судовай — аптымальным для цяперашняга ўзроўню развіцця беларускага грамадства?

**Адказ.** Адной з прычын узнікшага канфлікту паміж Прэзідэнтам і часткай парламентарыяў якраз і з'явілася тое, што ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай у 1994 годзе, не было дакладнага размежавання правоў і паўнамоцтваў выканаўчай, заканадаўчай і судовай улады. Мяркуйце самі. 70 дэпутатаў Вярхоўнага Савета (адна трэць) маглі адхіліць кіраўніка дзяржавы ад улады. Прэзідэнт жа ніякіх магчымасцей уздзеяння на парламент не меў. А яго ж, як і дэпутатаў, выбіраў народ, і не адной акругі, а ўсёй краіны.

Папраўкі да Канстытуцыі, прынятыя на рэферэндуме, устанавілі. баланс паміж галінамі ўлады. Кожная з іх надзелена толькі тымі паўнамоцтвамі, якія неабходны для абароны інтарэсаў асобы і грамадства.

Зразумела, новая палітычная сістэма не ідэальная. Але яна адпавядае інтарэсам развіцця беларускага грамадства на гэтым пераходным этапе.

**Пытанне.** Якую эканамічную мадэль вы лічыце цяпер найбольш аптымальнай для рэспублікі? Ці сапраўды яна садзейнічае павышэнню жыццёвага ўзроўню беларускага народа? Якой бы вы хацелі бачыць эканоміку краіны ў будучыні?

**Адказ.** Такая мадэль вызначана асноўнымі напрамкамі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады. Гэта — сацыяльна арыентаваная рынкавая дзяржава, якая прадугледжвае арганічнае спалучэнне перавag сучаснай высокаразвітой рынкавай эканомікі і захавання сацыяльнай абароны грамадзян.

Мы будзем няўхільна ісці шляхам стварэння дзяржавы:

з высокаразвітой і эфектыўнай эканомікай, заснаванай на самых сучасных тэхналогіях, якія дазваляюць гуманізаваць працу і забяспечыць высокі ўзровень захавання асяроддзя пражывання;

з гарантаванай законам свабодай развіцця ўсіх формаў уласнасці з агульнай для іх моцнай сацыяльнай арыентацыяй;

якая забяспечвае ўмовы для эфектыўнай і высокапрадукцыйнай працы грамадзян і гарантуе яе справядлівае ўзнагароджанне;

якая гарантуе высокую ступень сацыяльнай абароненасці для малазабяспечаных слаёў насельніцтва, пенсіянераў, інвалідаў, дзяцей, маці;

якая забяспечвае даступнасць атрымання адукацыі і медыцынскага абслугоўвання для ўсіх грамадзян і ўсіх сацыяльных груп.

**Пытанне.** Ці выклікала пагадненне аб эканамічным саюзе з Расіяй рэальнае паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы?

**Адказ.** Так, несумненна. Стварэнне агульнай мытнай прасторы ажывіла гандлёва-эканамічны абмен. Доля Расіі ў знешнегандлёвым абароце за дзесяць месяцаў 1996 года павялічылася на 4,6 працэнта ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года.

Значна павялічыліся пастаўкі ў Расію прадуктаў перапрацоўкі сельскай гаспадаркі, прадукцыі хімічнай і звязаных з ёй галін прамысловасці, тавараў лёгкай прамысловасці.

Расія з'яўляецца асноўным пастаўшчыком паліўна-энергетычных рэсурсаў. Эканамічны саюз з Расіяй даў магчымасць нам загрузіць вытворчыя магутнасці нафтаперапрацоўчых заводаў, не дапусціць зніжэння колькасці рабочых не толькі на заводах па перапрацоўцы нафты, але і ў сумежных галінах.

Пачынаючы з сакавіка 1996 года ў рэспубліцы намеціўся рост унутранага валавога прадукту, штомесячны яго прырост у сярэднім складае за сакавік-кастрычнік 1996 года 2—3 працэнты.

**Пытанне.** Якая будзе ваша рэакцыя на расшырэнне НАТО і якія вашы адносіны да праграмы "Партнёрства дзеля міру"?

**Адказ.** Удзельнічаючы ў праграме "Партнёрства дзеля міру", мы гатовы і далей супрацоўнічаць з НАТО ў пытаннях забеспячэння міру. Але мы лічым недальнабачным рабіць НАТО галоўным звяном сістэмы еўрапейскай бяспекі. Мадэль еўрапейскай бяспекі, аснову якой складала б НАТО, падзеліць краіны кантынента на дзве няроўныя і нераўнапраўныя групы: члены НАТО і краіны, якія не ўваходзяць у гэты блок. Прычым найбольш пацярпеўшай у выніку новага расколу Еўропы акажацца Беларусь, па границах якой пройдзе лінія новага расколу. Менавіта таму ў нас глыбокі неспакой выклікаюць планы хуткага расшырэння НАТО на Усход. Сістэма бяспекі, заснаваная на дамінаванні пэўнай групы краін, не можа быць трывалай і даўгавечнай.

**Пытанне.** Вашы апаненты нярэдка абвінавачваюць вас у тым, што вы штучна ўцягваеце Беларусь у сферу эканамічнага і палітычнага ўплыву Расіі на шкоду адносінам рэспублікі з Захадам. Ці так гэта? Які баланс адносінаў Беларусі з Расіяй і астатнімі краінамі ў найбольшай ступені адпавядаў бы нацыянальным інтарэсам рэспублікі?

**Адказ.** Буду шчыры: беларуска-расійскія адносіны не ўсімі ўспрымаюцца аднолькава. Сям-там гэта ўспрынялі як спробу адраджэння савецкай імперыі і нават пачалі прымаць прэвентыўныя меры.

У сувязі з гэтым хачу сказаць, што адраджэнне Савецкага Саюза аб'ектыўна немагчыма. Як казалі ў старажытнасці: нельга ўвайсці двойчы ў адну і тую ж раку. Але беларускі і рускі народы заўсёды імкнуліся жыць разам. І гэта збліжэнне ў інтарэсах абедзвюх краін, народаў.

Тут не павінна быць двайнога стандарту. Паглядзіце — інтэграцыя ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы становіцца ўсё больш магутным інструментам прарыву ў XXI стагоддзе. І ніхто не аспрэчвае, што гэта з'ява прагрэсіўная. Якраз такіх жа пазітыўных адносінаў заслугоўвае і беларуска-расійская інтэграцыя. Не можа ж быць так, што інтэграцыя на Захадзе — гэта абавязкова добра, а інтэграцыя на Усходзе — гэта абавязкова дрэнна.

Я супраць таго, каб іграць на супярэчнасцях паміж Расіяй і іншымі дзяржавамі, супраць дылемы: "або разам з Расіяй супраць Захаду, або разам з Захадам супраць Расіі". Такі падыход у прынцыпе няправільны. Мы хочам сябраваць з дзяржавамі Захаду, развіваць з імі дзелавыя, партнёрскія адносіны. Аднак рабіць гэта за кошт пагаршэння адносінаў з Расіяй не збіраемся.

**Пытанне.** Ці засталася на тэрыторыі Беларусі хоць адна ракета або ядзерная боегалоўка? Ці дапускаеце вы магчымасць размяшчэння на тэрыторыі рэспублікі зброі масавага паражэння?

**Адказ.** Ніводнай ракеты, ніводнай ядзернай боегалоўкі на тэрыторыі Беларусі няма. Аб гэтым я заявіў на саміце АБСЕ ў Лісабоне.

Нагадаю: у свой час Беларусь першай добраахвотна і без усяляких умоў і таргоў адмовілася быць уласніцай велізарнага ядзернага патэнцыялу, што размяшчаецца на яе тэрыторыі.

Мы выступілі з ініцыятывай фарміравання на кантыненце бяз'ядзернай прасторы. Але пазіцыю, якую занялі па гэтым пытанні многія нашы замежныя партнёры, цяжка назваць адэкватнай. З аднаго боку, яны вітаюць вывад з Беларусі ядзерных ракет, а з другога — не праяўляюць гатоўнасці ўзяць на сябе абавязацельства не размяшчаць на сваёй тэрыторыі ядзернай зброі. Я яшчэ раз заклікаю адказна паглядзець на праблему і падтрымаць ідэю стварэння бяз'ядзернай прасторы. Тады і ў прынцыпе не будзе ўзнікаць пытання аб размяшчэнні ракет.

**Пытанне.** Як вы вырашаеце медыцынскія праблемы, што атрымала Беларусь у спадчыну ад чарнобыльскай аварыі? Ці дастаткова ў рэспубліцы сродкаў для лячэння захварэванняў і генетычных дэфектаў насельніцтва, спраўакаваных катастрофай? Ці разлічваеце вы на вялікую дапамогу Захаду ў вырашэнні гэтых праблем?

**Адказ.** Хачу падкрэсліць для чытачоў газеты наступнае: хоць сама атамная электрастанцыя знаходзіцца на тэрыторыі Украіны, большасць радыеактыўных ападкаў выпала на тэрыторыі Беларусі. Беларускі народ пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС больш за ўсіх. Гэта амерыканскі чытач павінен ведаць.

Пасля развалу Савецкага Саюза мы засталіся з чарнобыльскай бядой сам-насам. Больш за чвэрць гадавога бюджэту рэспублікі ідзе на дапамогу пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы. Мы гатовы прыняць дапамогу як ад сусветнага супольніцтва ў цэлым, так і ад дабрачынных арганізацый. Але гэта павінна быць сапраўды дапамога, нацэленая на тое, каб мы рэальна пераадолелі наступствы радыяцыі. Мы маем патрэбу ў найноўшым медыцынскім абсталяванні і лякарствах, сучасных безадходных тэхналогіях. У гэтым напрамку рэспубліка гатова ісці на самае шырокае супрацоўніцтва з рознымі амерыканскімі фірмамі.

Чарнобыльская бяда — гэта мой пастаянны боль. Я рэгулярна бываю ў чарнобыльскай зоне, сустракаюся са спецыялістамі, а таксама з людзьмі, якія там жывуць. Я заўсёды буду рабіць усё, каб дапамагчы гэтым людзям і падтрымаць іх. Усё, што звязана з мінімізацыяй наступстваў чарнобыльскай катастрофы, знаходзіцца пад пастаянным кантролем Прэзідэнта.

**Пытанне.** З якімі краінамі ў Беларусі найбольшы тавараабмен і найлепшыя перспектывы адносінаў?

**Адказ.** Знешнеэканамічная дзейнасць — люстэрка ўнутранай эканомікі. Сёння Рэспубліка Беларусь падтрымлівае гандлёвыя адносіны з усімі краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў і 132 іншымі краінамі. За дзевяць месяцаў 1996 года знешнегандлёвы абарот Рэспублікі Беларусь склаў 8,9 мільярда амерыканскіх долараў. З краінамі СНД — 5,9 мільярда, з краінамі далёкага замежжа — 3 мільярды.

Гістарычна склалася так, што асноўным нашым партнёрам з'яўляецца Расія. На расійскі рынак пастаўляецца 53,3 працэнта ўсёй прадукцыі, якая экспартуецца з Беларусі, 52,6 працэнта імпартуемых у рэспубліку тавараў маюць расійскае паходжанне.

Другі па значнню гандлёвы партнёр рэспублікі — Украіна. Агульны аб'ём знешняга гандлю з ёю складае 10,1 працэнта.

# ЯДНАННЕ З ЛЕСАМ





Лес — вось ён побач. Сядзіба лесніка ледзь не дакранаецца да яго. Пушысты сняжок прывабна пабяліў дрэвы. Асвятліў ён і сядзібу. Прыгадаліся радкі з верша Леаніда Казачэўскага:

**Одинокий**
**Замшелый хутор.**
**Тяжело здесь стоять ему.**
**Даже волку порою худо,**
**Очень худо быть одному.**

— Вам не сумна на сваім хутары? — спытаў у гаспадара А. Гарошкі, калі трохі разгаварыліся.

— Чаго сумаваць? — усміхнуўся Аляксей Іванавіч. — Лес — добры, ён сябар чалавека. Калі чалавек з ім у згодзе, то лес адказвае дабрынёй, дае чалавеку шмат асалоды.

— Мы тут даўно жывем, — дадала Надзея Пятроўна, жонка лесніка. — Прывыклі. Ды і спраў хапае: у Аляксея — лясных, у меня — хатніх.

Аляксей Іванавіч — чалавек гаваркі, востры і на розум, і на язык. Не так часта трапляюцца людзі, у якіх сур'ёзнасць надзвычай гарманічна спалучаецца з жартаўлівасцю. Аляксей Іванавіч пра свае справы, пра жыццё ўвогуле расказваў з лёгкім гумаркам, дасціпным і трапным. Шкада, што не было з сабой дыктафона. Запісаць бы лесніка на касету — мог бы атрымацца цудоўны рэпартаж.

А так цяжка перадаць каларытнасць яго чыстай беларускай мовы, арыгінальныя думкі, падыходу да жыццёвых з'яў.

Жыве ў лесе вось такі разумны і руплівы чалавек. Пільна даглядае яго. Пасадзіў сотні гектараў маладога лесу. І яшчэ. Прысвяціў жыццё лесу, а той адплаціў яму светлай радасцю яднання з прыродай.

**Васіль ТАРАСЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

У 1997 годзе будзе 20 гадоў, як адышла ад нас таленавітая паэтка Еўдакія Лось... Мне пашанцавала асабіста быць знаёмым са спадарыняй Еўдакіяй, калі я, будучы студэнтам Мінскага кааператыўнага тэхнікума па спецыяльнасці "таваразнаўства кнігі", праходзіў вытворчую практыку ў цэнтральнай кнігарні сталіцы, што месціцца насупраць кавярні "Вясна" на праспекце Францішка Скарыны.

...20 гадоў праляцела, а мне чуецца яе мілагучны голас, напеўная родная мова, што гучала, бы песня... Я пасля з'езду з Беларусі больш ніколі асабіста не сустракаўся са спадарыняй Еўдакіяй, і вестка аб яе заўчаснай канчыне 3 ліпеня 1977 года застала мяне ў сталіцы Дагестана Махачкале, дзе я вучыўся на філалагічным факультэце мясцовага універсітэта. Хаця быў час студэнцкіх вакацый, але Каспійскае мора, на беразе якога месціцца дагестанская сталіца, не адпускала ад сябе, прыемна было пасля чарговай сесіі акунуцца ў цёпла апладзіравалі яму слухачы, а значыцца і спадарыні Еўдакіі за напісанне верша, і спадарыні Тамары за майстэрскі пераклад на ўкраінскую мову. Вось услухайцеся, як ён гучыць па-ўкраінску:

**Мій рідний край —**
**Це житній колос,**
**Розливи трав, жасмину цвіт,**
**В лісах —**
**Співучий пилки голос,**
**Коліс важких глибокий слід...**

Еўдакія Лось вельмі любіла сваю маленькую Бацькаўшчыну — Ушаччыну, Віцебшчыну. На імпрэзе прагучаў верш "У Вітебську", які прачытала Ганна Камінская:

**У Вітебську — усе своє:**
**І хто кує, і хто малює...**
**А скільки радості дае**

## ЕЎДАКІЮ ЛОСЬ ВЕДАЕ УКРАІНА

# О БІЛОРУСЬ, МОЯ ТИ ДОЛЕ...

цёплыя марскія хвалі, загараць пад спякотным паўднёвым сонцам, сілкуючыся таннай садавінай і гароднінай... Я быў ашаломлены: я вось тут купаюся ў моры, радуюся жыццю, а яе ў 48 гадоў забрала нягодніца-смерць. Амаль тыдзень я не з'яўляўся на гарадскім пляжы, і мае сябры і знаёмыя пачалі ўжо хвалявацца, ці чаго са мною не здарылася, ці не захварэў часам...

...Ад 1980 года я пастаянна жыву на Украіне. І якім жа шчасцем свяціліся мае вочы, калі ў 1984 годзе ў мясцовай кнігарні пабачыў зборнік паэзіі спадарыні Еўдакіі на ўкраінскай мове "Черемховий поїзд"!.. Склала зборнік, пераклала змешчаныя ў ім вершы на ўкраінскую мову сяброўка Еўдакіі Лось Тамара Каламіец... Пачынаецца кніжка вершам, які даў ёй назоў "Черемховий поїзд"...

**У вікнах весна в оберемках шуме,**
**У білому цвіті усе,**
**Черемховий поїзд на Київ прямує,**
**У Київ черемху везе...**

Еўдакія Лось часцяком бывала на Украіне: тут, ва ўкраінскай зямлі, пакоіцца прах яе брата, які загінуў пры вызваленні Фастава ў апошнюю вайну... У вершы "Лист у Фастів" яна звяртаецца да жыхароў горада вось з такою просьбаю:

**...Там, дзе вільно ластівці,**
**Де сади шумлять,**
**Напишіте, фастівці,**
**Братове ім'я!**
**Я прошу вас ласкою,**
**Аж слова болять.**
**Я сама, як ластівка,**
**Буду там кружлять...**

Фастаўцы не забыліся: прозвішча брата Еўдакіі Лось выгравіравана разам з прозвішчамі вызваліцеляў горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на абеліску ў гонар і памяць пра іх: "Ніхто не забыты, і ніштота не забыта!"...

Я даўно выношваў задуму пазнаёміць з цудоўнымі перакладамі Тамары Каламіец вершаў нашай славутай зямлячкі як мага большае кола чытачоў гарадской бібліятэкі. І на дапамогу мне прыйшлі мае выхаванцы — члены гуртка беларускай культуры "Зорка Венера", што дзейнічае ў 1-й сярэдняй школе нашага горада, дзе працую выкладчыкам рускай і польскай моў і замежнай літаратуры. Актывістка гуртка Вікторыя Палішчук падрыхтавала даклад "Білі пелюстки пам'яті", у якім расказала пра жыццёвы і творчы шлях паэткі. Члены гуртка чыталі вершы са зборніка "Черемховий поїзд", якія ім спадабаліся. У перапоўненай чытальнай зале не было дзе ўпасці яблыку, калі Аксана Шнайдар чытала вось гэтыя радкі:

**О Білорусь, моя ты доле,**
**Моя сльоза і поцілунок,**
**Мое в берізках білих поле,**
**Мій споввнений піснями клунок!..**

А як хораша прагучаў верш "Предки" ў выкананні Дзмітруся Гладуша, як

**Та пісня, що земляк даруе!**
**Рідніше серцю слово тут,**
**Бо діалект — в його оздобі.**
**І перші промені цвітуть,**
**Як золото в найвищій пробі.**
**У Вітебську живе ріка,**
**І десь у ній струмочок скаче**
**З того святого рівчачка,**
**Що називається — Ушаче.**

Цудоўны верш, цудоўны пераклад, словы верша так і просяцца на музыку!

**Білорусам, отим, що не дома,**
**Певно сниться борів наших гомін,**
**А в борах — боровик, ніби цар,**
**А в лугах — канюшина, як жар...**
**Білорусам, отим, що не дома,**
**Певно, бачиться місто знайоме**
**По кіно, по газетному знімку,**
**Де будинки підносяться стрімко...**
**Білорусам, отим, що не дома,**
**Певно, чуються звуки відомі,**
**Що в підручниках наших у школі,**
**Що в піснях — у гостині і в полі...**
**Білоруси, чому ви не дома!**

Чытаў верш на імпрэзе ў бібліятэцы Андрусь Раманюк. І як скончыў чытаць, то так пільна паглядзеў мне ў вочы: маўляў, спадар Пятрусь, чаму ж вы не дома?! А можа мне гэта толькі падалося?! Ва ўсякім разе, у кожнага з нас, беларусаў далёкага і блізкага замежжа, ёсць шмат адказаў на пытанне, якое ставіць да ўсіх нас паэтка ў сваім вершы "Білоруси, які не дома"... Імпрэза павольна набліжалася да свайго канца: гучалі такія вершы паэткі, як "Соловейко", "Журавлі", "Художник", "Любіте, хлопці...", "Ой та й хлопці ж е на Украіні!", "Посадила горобини" і іншыя, якія па-майстэрску чыталі Ірына Рабашчук, Наталка Гайшун, Сяржук Кастушэвіч, Тацццяна Дземянчук, Дзмітрусь Франчук, Алеся Мозуль... Імпрэза ў бібліятэцы Ізяслава — уклад нашага гуртка беларускай культуры "Зорка Венера" ў вечную памяць аб слаўнай дачцэ Ушаччыны знакамітай беларускай паэтцы Еўдакіі Лось, якая ведала Украіну і якую ведае Украіна: паэты і паэзія не ўміраюць, таму што яны жывуць у сваіх паэтычных творах! І закончу свой допіс радкамі спадарыні Еўдакіі, якімі хачу адказаць... на пытанне з яе верша "Белоруси, які не дома":

**Любіте, хлопці, Україну —**
**така хороша в вас земля!**
**Вона для матері і сина, для ратая**
**і коваля...**
**...До вас тягнуся навпрошки —**
**упитись духом непокори,**
**Відчуть, чим дихали віки...**

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг.

Украіна,
г. Ізяслаў.

*З ЛАТВІІ*

# ПЕРШЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ГАСТРОЛІ



З творчым калектывам клуба "Спадчына" 11-й сярэдняй школы горада Мінска я пазнаёміўся ў кастрычніку мінулага года ў час канферэнцыі "Культура беларускага замежжа" на творчым вечары латышскага паэта Улдзіса Берзіньша ў Доме дружбы народаў у сталіцы Беларусі. Вёў гэты вечар старшыня таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" паэт Сяргей Панізьнік. Там хор хлопчыкаў-спадчынцаў выдатна выканаў некалькі народных песень на беларускай і латышскай мовах.

І вось на парозе Каляд новая сустрэча ў горадзе Даўгаўпілсе, куды вядомы калектыў мінчан прыехаў з візітам у адказ на запрашэнне 3-й сярэдняй школы. На канцэрце ў актавай зале гэтай школы радасна было ўбачыць паспяховае выступленне сваіх суайчыннікаў: ляпечнага тэатра "Батлейка" і ансамбля народных інструментаў пад кіраўніцтвам Міколы Лазоўскага.

У развітальнай размове з аўтарам гэтых радкоў кіраўнік клуба "Спадчына" Ганна Сасноўская выказала шчырае задавальненне першай замежнай гастрольнай паездкай сваіх выхаванцаў. Вельмі добрае ўражанне ў гасцей пакінула і наведванне дома-музея Райніса ў Беркенэлях, дзе іх цёпла прымала загадчык аддзела культуры даўгаўпілскага раённага савета, старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Муканэ. Спадарыня Сасноўская выказала таксама прыемнасць ад сустрэч у Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе і ў беларускім таварыстве "Уздым".

Асцерагаючыся галалёду, адыходзіў аўтобус на Мінск, а тых, хто ад'язджаў, і тых, хто заставаўся, поўніла надзея на шчаслівую дарогу як дадому, так і ў жыцці і творчасці і спадзяванне на новыя радасныя сустрэчы.

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.

НА ЗДЫМКАХ: члены клуба "Спадчына" ў Даўгаўпілсе.



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

* * *

**Глядзіць Айчына на мяне**
**Праз далячыні.**
**Як выглядаю я ў вачах**
**Маёй Айчыны!**
**Зірну я збоку на сябе**
**Яе вачыма.**
**І мне сваіх вачэй хаваць**
**Няма прычыны...**

## ЛІСТАПАД

**Запомніўся мне**
**Утульны лістапад**
**З маёй радзімы**
**Цёплымі лістамі,**
**Запаў мне ў памяць**
**Цёплы лістапад,**
**Што цёплым быў**
**Ад слоў тваіх таксама.**

**Успомніцца ўпапад**
**І неўпапад**
**Яшчэ праз многа**
**Розных лістападаў,**
**Усплыве ў вачах**
**Пагодны лістапад,**
**Што ясным быў**
**І ад тваіх наглядаў...**

* * *

**Няйначай я з такога цеста:**
**Ува мне ёсць меса для пратэсту.**
**Што поўніць прагай да жыцця**
**І мне ўтрымацца памагае,**
**Калі зямелька пад нагамі**
**Плыве, —**
**Трымаць свой крыж, свой сцяг.**

**Інакш у белым, як нявеста,**
**Знайшла б мне смерць пад сонцам месца.**
**А так ізноў яе каса**
**Найшла на каменьчык пратэсту!**
**І усміхаецца нявестай**
**Любоў — да пояса каса...**

* * *

**Цябе я зноўку прыручыў,**
**Да сэрца — сэрца прылучыў.**
**І вось у восеньскай начы.**
**Спіш у мяне ты на плячы.**

**У акне вітаючы зару,**
**Каханнем я к табе гару,**
**Заклён-замову гавару,**
**Каб не адбілася ад рук...**

*СПРАВА САЛАМОНА МІХОЭЛСА*

# 1948-мы. 13 студзеня

**49 гадоў назад (13 студзеня) у Мінску быў забіты Саламон Міхоэлс — кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, народны артыст СССР. Акалічнасці яго смерці цяпер вядомыя, хаця ніякага афіцыйнага расследавання да гэтага часу не было і імёны забойцаў не названы. Таму, магчыма, вакол гэтай гісторыі працягваюць кіпець страсці.**

...У маленькіх гарадах і мястэчках на захадзе і поўдні царскай Расіі жылі страхары і краўцы, бляхары і кушняры, шаўцы і шкловыдзімальшчыкі, майстры многіх немудрагелістых прафесій. У сваёй большасці гэта былі яўрэі, і жыць ім дазвалялася за так званай рысай аселасці. Змрочны цень убогага сярэдневяковага гета пакідаў непазбыўны след на жыццёвай філасофіі і ладзе існавання яўрэяў у Расійскай імперыі.

Шлема Воўсі нарадзіўся 16 сакавіка 1890 года ў Дзвінску ў сям'і дробнага, хутчэй збанкрутаванага лесапрамыслоўца. Яшчэ ў дзіцячыя гады ўзнікла цікавасць да тэатра ў будучага народнага артыста СССР Саламона Міхоэлса.

У 1905 годзе Саламон паступіў у рэальнае вучылішча ў Рызе. Вучнем 3-га класа Міхоэлс упершыню ўбачыў сапраўдны прафесійны тэатр — і рускі, і яўрэйскі. На працягу сямі гадоў Міхоэлс дарэмна стараўся паступіць ва універсітэт. Перашкаджала не адсутнасць здольнасцей і ведаў. Дарогу наверх спыняла праславутая "працэнтная норма" для яўрэяў, устаноўленая царскімі ахоўнікамі культуры. І толькі ў 1915 годзе Міхоэлс быў прыняты на юрыдычны факультэт Петраградскага універсітэта.

Міхоэлс не стаў юрыстам. Але гады, праведзеныя ва універсітэце, не прайшлі для яго дарма. За гэты час ён спасцігнуў усе таямніцы, усё багацце рускай гутарковай мовы.

...Невядома, як склаўся б лёс студэнта-юрыста Воўсі, калі б у халодным рэвалюцыйным Петраградзе 1919 года ён не даведаўся, што малады рэжысёр А. Граноўскі задумаў стварыць яўрэйскую тэатральную студыю. Неўзабаве Шлема Воўсі стаў вучнем першай яўрэйскай тэатральнай студыі. У 1921 годзе петраградцы аб'ядналіся з масквічамі, і ў Маскве адкрыўся камерны яўрэйскі тэатр. Сцены тэатра былі распісаны будучай сусветнай славутасцю, віцебскім мастаком М. Шагалам.

У 1927 годзе Міхоэлса чакаў трыумфальны поспех у спектаклі "Падарожжа Веніяміна 111". 1934 год быў асаблівым у творчасці Міхоэлса — рэжысёра і акцёра. Ён пачаў працаваць над драмай Шэкспіра "Кароль Лір". Гэтаму папярэднічалі смерць першай жонкі і іншыя цяжкія жыццёвыя абставіны. І, нібы перамагаючы ўсё і ўся, Міхоэлс узяўся за самае цяжкае ў сваім тэатральным жыцці.

1941 год застаў Міхоэлса ў Маскве. Ён быў антыфашыст да мозгу касцей. Ён ненавідзеў гітлераўцаў, як мог іх ненавідзець кіраўнік савецкага тэатра і інтэлігент.

Менавіта таму Міхоэлс узначаліў Яўрэйскі антыфашысцкі камітэт (ЯАК), створаны ў жніўні 1941 года. ЯАК садзейнічаў умацаванню саюза паміж СССР і ЗША супраць гітлераўскай Германіі. У 1943 годзе Сталін паслаў С. Міхоэлса разам з паэтам І. Феферам у паездку ў ЗША, Канаду, Вялікабрытанію і Мексіку. Вялікая роля С. Міхоэлса ў росце сімпатый да Савецкай Арміі, што змагалася супраць Гітлера. 48 000 чалавек у ЗША прыйшлі на стадыён Пола Граўнд слухаць Міхоэлса. Шквал апладысментаў завяршаў кожнае яго выступленне.

У Амерыцы Міхоэлс сустракаўся з Альбертам Эйнштэйнам, Тэадорам Драйзерам, Эптанам Сінклерам, Полем Робсанам, Чарлі Чаплінам. І калі ў ЗША знайшліся грошы і каманды, каб адпраўляць караваны суднаў з тэхнікай і харчаваннем на Мурманск і Архангельск па лендлізу, то ў гэтым была немалая заслуга С. Міхоэлса і ўсяго Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта.

Міхоэлс, аднак, разумеў, што пасля Перамогі ён ужо больш не патрэбны Сталіну, таму што "правадыр усіх народаў" кардынальна мяняў савецкую нацыянальную палітыку.

Чорныя хмары згушчаліся над галавой Міхоэлса. Ужо рыхтаваліся да звальнення журналістаў і рэдактараў, тэатральных дзеячаў, урачоў, інжынераў — яўрэяў па нацыянальнасці. Было ясна, што Міхоэлс, які носіць на грудзях ордэн Леніна, савецкі рэжысёр і антыфашыст, ніколі б з гэтым не змірыўся...

**Тайну гібелі Міхоэлса раскрыў Лаўрэнцій Берыя**, прызначаны пасля смерці Сталіна міністрам унутраных спраў СССР. Абставіны забойства змясціліся ў яго невялікую запіску ў Прэзідыум ЦК КПСС 2 красавіка 1953 года.

Берыя палічыў выйгрышным для сябе спыніць найбольш шумныя і адыёзныя справы МДБ у апошнія гады жыцця Сталіна. Да таго ж па справе аб Яўрэйскім антыфашысцкім камітэце была арыштавана і асуджана да ссылкі жонка Молатава Паліна Жамчужына, таму ў Берыі з'явіўся яшчэ адзін шанс удружыць Молатаву рэабілітацыяй яго жонкі.

У ходзе праверкі "справы ўрачоў", пісаў Берыя ў той запісцы, высветліліся падрабязнасці забойства Міхоэлса. Сталін, аказваецца, лічыў яго кіраўніком "антысавецкай яўрэйскай нацыяналістычнай арганізацыі", але МДБ не мела канкрэтных даных аб "антысавецкай" ці "шпіёнскай" дзейнасці, хаця многа гадоў Міхоэлс быў пад агентурным наглядам.

Берыя паведамляў, што па справе аб гэтым забойстве быў дапытаны былы міністр дзяржбяспекі Абакумаў, арыштаваны яшчэ ў 1951 годзе, запатрабаваны тлумачэнні ад Агальцова, Цанавы і іншых удзельнікаў аперацыі. Са слоў Абакумава, Сталін яшчэ ў 1948 годзе даў яму заданне тэрмінова арганізаваць ліквідацыю Міхоэлса сіламі МДБ. Калі стала вядома, што Міхоэлс знаходзіцца ў Мінску, Сталін вырашыў ліквідаваць яго пад выглядам няшчаснага выпадку. У размове, як расказаў Абакумаў, спыніліся на С. Агальцове, намесніку міністра дзяржаўнай бяспекі, Лаўрэнціі Цанаве, міністры ДБ Беларусі, і Фёдары Шубнякове, начальніку аддзела 2-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства дзяржаўнай бяспекі.

Як растлумачыў Агальцоў, разглядалася некалькі варыянтаў ліквідацыі Міхоэлса. Ад аўтамабільнай катастрофы адмовіліся, таму што маглі пацярпець супрацоўнікі МДБ, якія ўдзельнічалі ў гэтым. Вырашылі інсцэніраваць аўтамабільны наезд на глухой вуліцы, хаця і ў гэтым выпадку ў мэтах глыбокай канспірацыі даводзілася ахвяраваць агентам ДБ Голубавым, які суправаджаў Міхоэлса ў Мінску.

Падрабязнасці ажыццяўлення гэтай акцыі — у тлумачэннях, якія даў Цанава: "Прыкладна ў 10 гадзін вечара Міхоэлса з Голубавым завезлі ў двор дачы (размова ідзе аб дачы Цанавы на ўскраіне Мінска). Яны адразу з машыны былі зняты і раздушаны грузавой аўтамашынай. Прыкладна ў 12 гадзін ночы, калі па Мінску рух публікі скарачаецца, трупы Міхоэлса і Голубава былі пагружаны на машыну, адвезены і кінуты на адну з вуліц горада (размова ідзе аб вуліцы Беларускай насупраць стадыёна "Дынама"). Раніцай яны былі знойдзены рабочымі, якія аб гэтым паведамілі ў міліцыю".

Сталін распарадзіўся ўзнагародзіць забойцаў ордэнамі. 30 красавіка 1948 года Абакумаў накіраваў Сталіну спіс чэкістаў з просьбай аб узнагароджанні: ордэнам Чырвонага Сцяга — генерал-лейтэнанта Агальцова С. І. і генерал-лейтэнанта Цанаву Л. Ф.; ордэнам Айчыннай вайны І-й ступені — старшага лейтэнанта Круглова Б. А., палкоўніка Шубнякова Ф. Г.; ордэнам Чырвонай Зоркі — маёра Косырава А. Х., маёра Паўзуна М. Ф.

Сталін прыняў рашэнне не адразу, але ў рэшце рэшт падпісаў паперу, і імёны "герояў" трапілі ў два ўказы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджаннях ад 28 і 29 кастрычніка 1948 года.

Прэзідыум ЦК КПСС разгледзеў запіску Берыі ад 2 красавіка 1953 года і пастанавіў: Цанаву і Агальцова арыштаваць, а ордэны ва ўзнагароджаных адабраць, што і было зроблена. Аднак пасля арышту Берыі ў чэрвені 1953 года Прэзідыум ЦК КПСС прыняў рашэнне аб вызваленні Агальцова. Цанава ж застаўся ў турме, але ўжо як удзельнік "банды Берыі". 5 жніўня ён напісаў слёзнае пісьмо Варашылаву з просьбай аб вызваленні. У пісьме Цанава адмаўляе сваё дачыненне да забойства Міхоэлса: "Да забойства гэтых людзей я адносін не маю. Усю аперацыю праводзілі Абакумаў і Агальцоў. Абакумаў кіраваў з Масквы, Агальцоў на месцы, у Мінску, з вялікай групай палкоўнікаў і падпалкоўнікаў, што прыехалі з Масквы, МДБ СССР, правялі ўсю аперацыю. Я ж не вінаваты, што з-за збегу акалічнасцей аперацыя была праведзена ў Мінску, дзе я тады быў, на няшчасце, міністрам дзяржбяспекі". Рэакцыі на пісьмо Цанавы не было, і ён памёр у турме ў 1955 годзе.

Цанава не мог не ведаць, што 5 студзеня 1948 года на пасяджэнні Камітэта па Сталінскіх прэміях было аб'яўлена, што Міхоэлс павінен ехаць у Мінск. Як члену Камітэта, яму было даручана азнаёміцца з прадстаўленымі на атрыманне гэтай прэміі спектаклямі мінскіх тэатраў — "Канстанцін Заслонаў" у тэатры імя Янкі Купалы і "Алеся" ў Вялікім Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР.

Цікавыя дэталі аб забойстве Міхоэлса паведамляе ў сваёй кнізе цяпер нябожчык Павел Судаплатаў. У якасці выканаўцы ён называў палкоўніка Лебедзева. Ён пісаў таксама, што Міхоэлсу і Голубаву спачатку зрабілі ін'екцыю яду, а затым ужо іх пераехала машына. Аналагічным чынам былі ўчынены і іншыя забойствы пад кіраўніцтвам таго ж Судаплатава, напрыклад, інжынера Самета ў чэрвені 1946 года ва Ульянаўску. Яго вывезлі за горад, зрабілі яму ўкол яду, пераехалі грузавіком і пакінулі ляжаць на шашы. У гэтай справе ўдзельнічалі палкоўнік Лебедзеў і старшы лейтэнант Круглоў — тыя ж, хто забіваў пазней Міхоэлса.

Забойства Міхоэлса стала сігналам для разгрому Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта. Яго актывісты не паверылі афіцыйнай версіі аб няшчасным выпадку з артыстам. На яго пахаванні Паліна Жамчужына, звяртаючыся да новага кіраўніка Яўрэйскага тэатра Зускіна, спытала: "Вы думаеце, што тут было — няшчасны выпадак ці злачынства?" Пачуўшы ж ад яго змест афіцыйнай версіі, заўважыла: "Не, гэта не так, тут усё далёка не так гладка, як здаецца".

Пасля гэтай размовы чуткі аб гвалтоўнай смерці Міхоэлса распаўсюдзіліся вельмі хутка. Пра гэта далажылі Сталіну, і ў студзені 1949 года Жамчужына была арыштавана. Антысеміцкая кампанія набірала абароты. Асноўную стаўку ў справе супраць ЯАК Сталін зрабіў на 2-е Галоўнае ўпраўленне МДБ, якое тады ўзначальваў генерал-маёр Яўгеній Пітаўранаў. Следства па справе Міхоэлса не абышло бокам Пітаўранава. Сталін вырашыў, што МДБ слаба змагаецца з "яўрэйскімі нацыяналістамі", і ў кастрычніку 1951 года былі арыштаваны некаторыя кіраўнікі дзяржбяспекі, у тым ліку і Пітаўранаў. Зразумеўшы свае памылкі, апошні звярнуўся 23 красавіка 1952 года са зняволення з пісьмом да правадыра. У пісьме быў шэраг прапаноў, як перабудаваць работу МДБ, у прыватнасці, па самаму востраму пытанню, якое цікавіць Сталіна: "Усё, што рабілася па барацьбе супраць яўрэйскіх нацыяналістаў, якія ўяўляюць цяпер не меншую, калі не большую небяспеку, чым нямецкая калонія ў СССР перад вайной з Германіяй, зводзілася да спарадычных намаганняў супраць адзіночак і лакальных груп. Для таго, каб гэтую барацьбу зрабіць паспяховай, варта было б МДБ СССР смела прымяніць той метад, аб якім вы ўпамянулі, прымаючы нас, работнікаў МБД, летам 1951 года, а менавіта: стварыць у Маскве, Ленінградзе, на Украіне (асабліва ў Адэсе, Львове, Чарнаўцах), у Беларусі, Узбекістане, Малдавіі, Літве і Латвіі нацыяналістычныя групы з чэкісцкай агентуры, легендзіруючы ў шэрагу выпадкаў сувязь гэтых груп з замежнымі сіяніскімі коламі. Калі не допускаць шаблона і не спяшацца з арыштамі, то праз гэтыя групы можна грунтоўна выявіць яўрэйскіх нацыяналістаў і ў патрэбны момант нанесці па іх удар".

Пітаўранаў трапіў у "дзесятку", паказаўшы, што толькі Сталін і можа навучыць чэкістаў розуму, да таго ж ён прадэманстраваў сваю вернасць партыі і службовае старанне. У канцы 1952 года па распараджэнню Сталіна Пітаўранаў быў вызвалены з турмы, прызначаны на кіруючую пасаду ў МДБ і прыняты "самім". У адрозненне ад сваіх калег Пітаўранаў не пацярпеў і ў хрушчоўскую адлігу.

У хрушчоўскі час было вырашана паставіць крыж на справе аб забойстве Міхоэлса і нікога з радавых выканаўцаў не караць. Пітаўранаў, у прыватнасці, даслужыўся ў КДБ да генерал-лейтэнанта.

Гітлер завочна прыгаварыў С. Міхоэлса да пакарання смерцю. Сталін прывёў гэты прыгавор у выкананне. Акцыя па забойству кіраўніка Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, народнага артыста СССР Саламона Міхоэлса, што рыхтавалася доўга і тайна, многім недасведчаным здалася ашаламляльна нечаканай. Яна ж і паслужыла сігналам да таго, каб прадставіць усіх яўрэяў, што жылі на тэрыторыі Савецкага Саюза, новай "пятай калонай", "наваяўленай агентурай сусветнага імперыялізму".

Вельмі хацелася б зразумець, чаму да гэтага часу дакументы па справе аб забойстве Міхоэлса захоўваюць грыф дзяржаўнай тайны.

Ці не таму, што ўсё яшчэ жывыя людзі, якім можна прад'явіць рахунак і чыю датычнасць ці ўдзел у гэтым забойстве без загрыфаваных дакументаў не даказаць?!

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



# ЦАРКВА, ЯКУЮ БУДУЮЦЬ ЧАЦВЁРА

Чалавек можа ўсё, нават, здавалася б, немагчымае, калі ім рухае вера. Вера ва ўласныя сілы, у праведнасць задуманага, вера ў Бога.

І я ехаў на сустрэчу з людзьмі, чыя вера і ўзвышанасць духу сталі амаль легендай у Польшчы. Дарога няблізкая — звыш пяцісот кіламетраў ад Беластока на поўдзень Польшчы. Тут, непадалёку ад горада Пшэмысля, у адгор'і Карпат, якія называюцца тут Бяшчадамі, чацвёра (!) праваслаўных манахаў будуюць манастыр Святых братоў Кірыла і Мяфодзія. Будуюць ужо дзесяць гадоў.

Калі айцец Нікадзім і айцец Анатазі пачалі гэтую, здавалася б, непасільную работу, то напісалі невялікую ікону з лікамі сваіх заступнікаў Кірыла і Мяфодзія. А на скрутку ў руках Св. Кірыла напісалі: "Браты былі парай валоў у вупражы Хрыста — адну баразну араць". І вось ужо дзесяць гадоў айцец Нікадзім (ігумен манастыра) і яго саратнікі айцы Мікалай, Анатазі і Сергіюш працуюць у імя Хрыста ў адной "вупражы".

А іх праца сапраўды тытанічная. Не буду падрабязна спыняцца на тых цяжкасцях, з якімі яны сутыкнуліся, — наймацнейшага процідзеяння каталіцкага касцёла, які не жадаў мець у гэтым краі амаль пагалоўнага каталіцызму праваслаўнага манастыра: байкоту на пастаўку будаўнічых матэрыялаў; маральнага ды і фізічнага ціску з боку мясцовых жыхароў. Усё пераадолелі, набылі аднадумцаў, сяброў. І ўзнялася на маляўнічай гары каля вёсачкі Уйковіцэ невялікая цэркаўка, а каля яе — жылы дом і гаспадарчыя пабудовы. Высокая сцяна адгарадзіла манастыр ад нядобразычліўцаў, пакінуўшы шырока адкрытымі вароты для сяброў. А іх у дзень асвячэння манастырскіх званоў (гэта было ранняй восенню) з'ехалася мноства. Галоўны звон манастыра адліты на ахвяраванні чытачоў часопіса "Православное обозрение".

Два дні ў манастырскай царкве і ля яе сцен ішлі малебны, чыталіся пропаведзі. Са словамі наказаў да паломнікаў, што прыехалі на свята, звярталіся свяшчэннаслужыцелі на чале з Мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы Васіліем.

І на агульным фоне свята амаль непрыкметныя былі галоўныя "віноўнікі" падзеі — айцы Нікадзім, Анатазі, Мікалай і Сергіюш. Нішто не падкрэслівала на іх тварах значнасці імі створанага. "Проста, — сказаў адзін з іх, паўтараючы Святога Яна, — трэба ўмець там зацвісці, дзе нас Бог пасадзіць". І яны змаглі гэта зрабіць.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час свята ў манастыры; хрэсны ход.**

**Фота аўтара.**



# НА СКРЫЖАВАННІ

Апрача дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце СССР, ён ездзіў у Маскву адседжваць сваю чаргу ў сакратарыяце Саюза пісьменнікаў. Многія масквічы чакалі яго, каб лягчэй вырашыць свае клопаты і быць пэўнымі, што паабяцанае будзе выканана. А цягнуў ён безліч нагрузак — акадэміка, члена ЦК, многіх рэдкалегій, члена Камітэта па Ленінскіх прэміях і старшыні Камітэта па дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры БССР. І паспяваў плённа пісаць і з кожным годам лепш і лепш. Ён адышоў ад лозунгавай публіцыстыкі, а кніжкі тонкай і шчырай лірыкі "Пахне чабор", "Між чырвоных рабін" любую паэзію ўзбагацілі б і ўпрыгожылі б. З'явіліся творы сапраўднай прозы, не раўня "заказному" раману "Калі зліваюцца рэкі". "Дання-Даніэль", "Разам з камісарам" — праўдзівыя старонкі нашай трагічнай, хлуслівай і бязлітаснай гісторыі. І ў тых падзеях ён бачыў сумленных і шчырых пакутнікаў за праўду. Ён сам быў шчыры, хоць, як і сучаснікі яго рангу, нешта заслужыў, а нешта выслужыў. Была такая пара і спакуса ў многіх людзей. Ён прагна жыў, рабіў подбежкам, каб болей паспець і зрабіць дабра людзям.

Тыя "сябры", што звальвалі яго на пісьменніцкім з'ездзе, адчулі, што без Петруся Усцінавіча не абысціся — прыпаўзлі, вымольвалі даравання. Ён не помніў зла і крыўды, пакруціў толькі галавою і выклапатаў ім значныя пасады, прэміі і кватэры, наблізіў да сябе, а гэта надавала вагу, браў з сабою ў паездкі і ніколі не папракнуў. А гэта ці не самая большая кара для больш-менш сумленнага чалавека.

У 1973 годзе Пятрусь Усцінавіч прапанаваў мне пасаду сакратара Камітэта па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Хоць я сябе добра адчуваў у рэдакцыі часопіса, Броўку адмовіць не мог. Згадзіўся. Пайшоў. У невялічкай канферэнц-зале ў кутку стаяла шафа з папкамі дакументаў, стол з тэлефонам і канцылярскае крэселца. Я сумленна адседжваў свае гадзіны, хоць і не было чаго рабіць кожны дзень. Двойчы на тыдзень тут збіраліся на "планёркі" загадчыкі рэдакцый са сваімі планамі, спрэчнымі і нявырашанымі пытаннямі. Хвіліна ў хвіліну прыходзіў Броўка. Нарада доўжылася не больш сарака пяці хвілін. Усе пытанні вырашаліся дакладна і хутка. У канцы Пятрусь Усцінавіч уставаў: "Усё, таварышы, поспехаў вам у рабоце". І ішоў у свой кабінет. За сцяною быў вузкі пакойчык для адпачынку. Ён з тэрмаса піў каву з тоненькім бутэрбродам. Часам званіў мне: "Зайдзі". Я бег уніз. "Ну, як у цябе справы?" Я неяк паскардзіўся, што ніяк не ўдаецца арганізаваць паездку членаў Камітэта ў Оршу паглядзець вылучаны на прэмію помнік. Я дахозіў да адчаю. " А ты не надта хвалюйся. Дакументы аформім, а каму даць прэмію, та-а-м (жэст у столь) вырашаць без нас".

З шуфляды даставаў некалькі старонак з вершамі. "От напісалася трохі. Бяры аловак, слухай і, калі дзе што не так, запісвай". Я ўважліва слухаў, нешта адзначаў, потым абмяркоўвалі. Заўважаў дробныя агрэхі — некаторыя інверсіі, збегі зычных, недакладныя рыфмы. Гаварыў усё, што заўважаў і думаў. З большасцю Пятрусь згаджаўся: "З боку лепш відно, так што кажы ўсё, як ёсць". Так мы сустракаліся даволі часта. Амаль усё напісанае мне было знаёма да надрукавання.

Кантрольным рэдактарам энцыклапедыі Броўка ўзяў свайго даўняга друга і былога аднакурсніка Янку Скрыгана. Калі я выходзіў, Пятрусь прасіў сказаць, каб зайшоў Янка. Яны доўга раіліся, узгаднялі кожную дробязь. Скрыган вычытваў кожны артыкул, некаторыя перапісваў, правіў, узбагачаў моўнымі вынаходствамі. З яго лёгкай рукі ўвайшлі ў нашу мову і прыжыліся "радовішча", "свідравіна", "лецішча", "любата", "смаката", навуковыя тэрміны. Броўка радаваўся знаходкам свайго друга.

У чырвоных вокладках з залатым цісненнем тамы энцыклапедыі выходзілі адзін за адным. Выхад кожнага тома быў святам для Броўкі і ўсяго калектыву. У 1972 годзе я паехаў у Дом творчасці на Рыжскае ўзмор'е. Штодня рабіў доўгія праходкі па залацістым пяску ўзбярэжжа. Пазнаёміўся там з рэдактарам тбіліскага часопіса "Литературная Грузия" Георгием Цыцышвілі. Гаворачы пра агульных знаёмых, ён пацікавіўся лёсам нашай энцыклапедыі. Я сказаў, што днямі выйшаў пяты том і я яго захапіў з сабою. Георгій Шалвавіч спыніўся і развёў рукамі: "Слюшай, не может быть. У нас ещё нет и первого тома. А почему? Все хотят попасть в энциклопедию, пишут жалобы в ЦК, преследуют Абашидзе..."

Калі я паказаў пяты том, ён доўга цмокаў, круціў, як цацку, з усіх бакоў і ўзяў паглядзець і пачытаць.

Кожны новы том радаваў і засмучаў Петруся Усцінавіча: была пагроза пасля дванаццатага тома спыніць работу выдавецтва. Гэта асабліва непакоіла Броўку. Ён адчуваў сябе адказным за лёс, як ён казаў, "сарваных" з абжытых месцаў лепшых работнікаў, іх крэслы даўно занятыя. Куды ж ім дзецца цяпер? Пра свой неспакой ён гаварыў з намеснікамі і часам прызнаваўся мне. Аднойчы ён вярнуўся з Масквы з нейкага ўрачыстага юбілею асабліва павесялелы. Пасля аднае планёркі расказаў мне, што ў Вялікім тэатры пасля ўрачыстай часткі ён коратка расказаў пра лёс энцыклапедыі Сакратару ЦК Дзямічаву і прасіў прыняць яго. Як там ішла размова, што Броўка даводзіў, ён не расказваў. Важна, што нават угаварылі Суслава, і было вырашана стварыць шматгаліновае Выдавецтва Энцыклапедыі самага шырокага профілю. І адразу пачалася рэформа рэдакцый, падрыхтоўка работнікаў і матэрыялаў. Так клопатам Броўкі, яго аўтарытэтам, тонкім дыпламатычным тактам, умельствам пераканаць у сваіх перакананнях узнікла і замацавалася, працуе і цяпер самае буйное выдавецтва з заслужаным імем Петруся Броўкі.

Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Пятрусь Усцінавіч часта наведваў сваіх выбаршчыкаў у Мазырскай акрузе. Яго цікавіла ўсё. Дзе трэба, ён падстаўляў сваё плячо і дапамагаў у складаных сітуацыях.

У ліпені 1974 года Броўка сабраўся ў Мазыр вырашыць дэпутацкія клопаты і правесці ў горадзе літаратурны вечар. Каб выступленне не было "сольнае", узяў у кампанію Скрыгана і мяне. Доўга ехалі на яго службовай машыне. Спыняліся ў прыгожых мясцінах размяцца, паўглядацца ў прыгажосць краявідаў. Мазырскае начальства свайго дэпутата прымала з радасцю, увагі перападала і нам з Скрыганом. У перапоўненай зале Дома культуры вечар доўжыўся больш за дзве гадзіны, з гадзіну Броўка пісаў аўтографы на даўнейшых і новых выданнях сваіх кніг. Пасля вячэры Пятрусь нас папярэдзіў: "Заўтра снедаем у дзевяць, а ў дзесяць кіруемся ў Петрыкаў". На прычале Прыпяці нас ужо чакала "Ракета" на падводных крылах. Буруны за кармою і шырокія хвалі залівалі берагі, з абодвух бакоў праносіліся непаўторныя карціны палескай прыгажосці. Прыпякала сонца з бязвоблачнага неба, пасярод дарогі спыніліся ў зацішнай затоцы і папялёскаліся ў цёплай вадзе з бурштынавым адлівам.

Што ж цягнула Петруся ў Петрыкаў (амаль каламбур)? Вучні невялічкай вёскі паскардзіліся свайму дэпутату, што сельсавет ніяк не збярэцца паправіць сарваны паводкай мост праз нешырокую рачулку і ім даводзіцца ў школу рабіць крук аж дзесяць кіламетраў. Не адпісваўся дэпутат, сам паімчаўся, каб на месцы дапамагчы дзецям.

Нас Пятрусь пакінуў на крутым беразе каля помніка дзеду Талашу, а яго ўжо чакала райвыканкомаўская "Ніва". "Адпачніце тут. Няма чаго вам трэсціся па бездаражы, а я доўга не затрымаюся", — сказаў і паехаў. Мясцовыя кіраўнікі ўгаворвалі не ехаць, абяцалі самі ўсё вырашыць. "Не, не, даражэнькія. Пагавару з дзецьмі, з бацькамі, сельсаветам і разам з вамі паправім той масток, каб дзеці дарэмна не білі ногі." Такі быў Броўка: вялікі і малы клопат не перадавяраў — сам даводзіў да ладу. Перад навучальным годам вучні тае вёскі прыслалі ліст з падзякаю Петрусю Усцінавічу. Такі ён быў у жыцці, у творчасці, у вялікім і малым — нястомны, абавязковы і руплівы...

Перада мною ляжыць маленькага фармату, сувенірнага кшталту кніжачка лірыкі Броўкі "Ты — мая пчолка" з такім аўтографам: "І ты ўклаў у гэтую кніжачку кавалачак святла сваёй душы. Дзякую табе! Пятрусь Броўка, сакавік, 1972 год".

Тагачасны старшыня Камітэта па друку Рыгор Канавалаў вырашыў да 8-га Сакавіка выдаць лірычны падарунак жанчынам — самыя пранікнёныя вершы Броўкі на беларускай і рускай мовах. Прадмову да яе выдавец і аўтар напісаць даручылі мне. Я ўзяў рукапіс, з алоўкам уважліва чытаў арыгіналы і пераклады, адзначаў, на што варта звярнуць увагу аўтара. Гэтая звычка засталася з часоў працы ў рэдакцыях. Над прадмоваю маракаваў доўга, бо найцяжэй за ўсё пісаць коратка. Калі закончыў і перадрукаваў, пайшоў да Броўкі.

Сядзелі ў яго даволі прасторным кабінеце: паліцы ўдоўж сцен, запакаваныя кнігамі, доўгі стол з стосікамі папак з рукапісамі, дэпутацкімі справамі, матэрыялы і гранкі энцыклапедыі, па сцяне — здымкі Купалы, Коласа, Рыльскага, Твардоўскага. Кватэра вялікая, з рыплівымі паркецінамі, відаць, даўно не рамантаваная, успомніўся той першы пакойчык Броўкаў, сустрэча з маладым Петрусём у Глуску. Ён уважліва чытае маю прадмову і часам зіркае на мяне. Думаю: "Забракуе". Дачытаў, памаўчаў. "Добра, што сцісла. Паэзію няма патрэбы тлумачыць, а вось залішнія эпітэты давай пачысцім, каб не палічылі цябе падхалімам". Потым разам паправілі некаторыя вершаваныя радкі. Я прызнаўся, што не даспадобы назва — "Ты — мая пчолка". Нагадвае даведнік бортніка. "Не, не! Толькі так і будзе. Лёля — сапраўдная мая пчолка. Каб не яна, не ведаю, што б з мяне было: яна ўмее прылашчыць і прыціснуць у кулачок. Вось і ўтрымала ад усіх спакусаў у маладосці. Так і будзе "Ты — мая пчолка". Прыслухайся — гучыць". Броўка назвы амаль усіх сваіх кніжак абгаворваў з сябрамі, прапаноўваў некалькі варыянтаў. Так калектыўна "ахрысцілі" "Пахне чабор" і "Між чырвоных рабін".

Сяргей ГРАХОЎСКІ.

Працяг.
Пачатак у № 1—4.

*ПОСТАЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ*

# НАШ ЛЮБІМЫ КОЛАС

У духоўнай спадчыне бачыцца годнасць чалавека, яго культура, павага да сваіх каранёў, свайго радаводу, да вялікай постаці, што сонцам свеціць свайму народу. ...Духоўнасць, як і старасць, мусяць быць прыстойнымі ў справах адпаведных улад. Духоўны голад шмат цяжэйшы, чым фізічны. Толькі ён не адразу адгукнецца вялікім болем у сэрцы. Сягоння пануе дэфіцыт культуры. Дзяржава не ў стане бараніць сваіх вялікіх сыноў. Таму і вымагае заступнікаў Якуба Коласа самім бараніць духоўную спадчыну народнага песняра, яго запаветныя мясціны, дзе жыў, працаваў, хадзіў самы спадзейны беларус. На вялікі жаль, на яго радзіме, у Коласавым заказніку, карыслівыя людзі паводзяць сябе, быццам прышлыя, чужыя да роднай прыроды. На кожным кроку барадатыя турысты, іх размаляваныя феі ладзяць дзікунскія вогнішчы, ломяць соснаў маладняк, паганяць памяць паэта. Горы сметніку аздабляюць той пейзаж. Як найлепш падыходзяць сягоннячняму дню словы самога Коласа:

**...Мой родны кут, лугі,**
**крыніцы!**
**Цяпер для вас я чужаніца...**
**Той самы лес, палеткі тыя,**
**Ды людзі там жывуць другія...**

Не толькі ёсць праблемы ў родным куце. Патрэбны намаганні, грошы, каб захаваць, аднавіць памяць Якуба Коласа, каб не хапала спажывецкая рука кавалкі Коласавай зямлі пад катэджы наменклатурных чыноўнікаў. Вялікі пясняр — настаўнік шматлікіх пакаленняў беларусаў, што жывуць у далёкім і блізкім замежжы. І таму неабходна штосьці зрабіць, каб не сцерлася памяць пра жыццёвыя шляхі-дарогі паэта...

Дзеля гэтага і створаны Міжнародны фонд Якуба Коласа. Яго галоўная мэта — больш дасканалае даследаванне жыцця і творчасці паэта, супольная праца прыхільнікаў Коласа ва ўсім свеце па ўшанаванню яго памяці, давядзенне да ладу мясцін, звязаных з імем песняра, з мэтай набыцця статуса запаведніка. Аховы мемарыяльных аб'ектаў, памятных мясцінаў, арганізацыя і ўдзел у міжнародных і рэгіянальных канферэнцыях, юбілеях, святах, фестывалях, звязаных з жыццём і дзейнасцю Якуба Коласа. Дапамога пачынаючым паэтам, даследчыкам творчасці песняра, сувязь з літгурткамі школ, арганізацыя выдавецкай дзейнасці коласаведаў, даследчыкаў неўміручай крыніцы паэта. Прыцягненне добраахвотных укладанняў грамадзян, няўрадавых арганізацый у выглядзе грашовых сродкаў, рэліквій, твораў мастацтва і г. д. для здзяйснення мэт і задач Міжнароднага фонду Якуба Коласа, які ўжо зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі. Не лішнім будзе мовіць пра тых творцаў, што ў сваіх допісах забываюць паставіць Якуба Коласа поруч з Янкам Купалам. Гэта ўжо нядобра, прыніжае годнасць самога творцы, які шукае ржавыя гіры, каб паставіць на вагу двух волатаў, двух самабытных паэтаў, якія, прынамсі, сябравалі паміж сабою. Як выказваўся Алесь Баршчэўскі падчас устаноўчага сходу: "Вакол Коласа, гэтай вялікай постаці, будзем гуртавацца, пачувацца беларусамі... Гэта наш нацыянальны гонар і сумленне..."

Прадстаўнікі ўладных структур, я маю на ўвазе Мінскі аблвыканком, Стаўбцоўскі райвыканком, прыхільна паставіліся, каб матэрыяльна дапамагчы фонду, як гэта ўжо зрабілі дырэктар "Белмастацкераміка" Мікалай Кладаў, дырэктар цаглянага завода Канстанцін Салагуб, Вячаслаў Шаўчук, дырэктар МГП керамічных вырабаў, старшыня калгаса імя Янкі Купалы Пятро Шостак, галоўны ўрач санаторыя "Сасновы Бор" Аляксей Хомчык. Гэта сапраўдныя прыхільнікі таленту Якуба Коласа. Усе яны з г. п. Радашкавічы. Шчырая падзяка ім за дабрачынны ўклад у дзейнасць фонду паэта.

Наперадзе працы шмат. Хочацца, каб нам, беларусам, у гэтай палітычнай мітусні не забыць пра людзей, якія сваёй дзейнасцю, сваім мастацкім словам здабылі шырокую славу Беларусі ва ўсім свеце. Наш любімы Колас песняй прарастае. Яго імя ў шарэнгу тых, хто праславіў Бацькаўшчыну!

**Сымон БЕЛЫ,**
**пісьменнік.**

# «РЫГОРКА — ЯСНАЯ ЗОРКА»



**"Рыгорка — Ясная Зорка" — апошняя пастаноўка галоўнага рэжысёра Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Уладзіміра Караткевіча, прысвечаная дзецям. Гэтая казка паказана 35 разоў, паглядзелі яе больш за 20 тысяч юных гамяльчан. Гледачамі сталі і выхаванцы дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, дзеці з малазабяспечаных сямей.**

**НА ЗДЫМКУ: фрагмент казкі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*САНЕТЫ ЗМІТРАКА МАРОЗАВА*

# ПЯШЧОТАЙ ЗНІТАВАНЫЯ СТРОФЫ

Паэзія Змітрака Марозава знаходзіцца як быццам на водшыбе беларускага літаратурнага архіпелага. Перакананы ў гэтым ужо таму, што значна радзей за іншых імя З. Марозава трапляе ў традыцыйныя "абоймы", што складаюць крытыкі. А яшчэ таму, што паэт, будучы па адукацыі аграномам, не развітваючыся фактычна з прафесіяй і сёння, высока ўзняўся ў прафесійным майстэрстве. Слушна зазначыў пра ўзровень Марозава вядомы літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша: "Змітрок Марозаў — сапраўдны пісьменнік, паэт з Божае ласкі. Пра гэта, безумоўна, сведчыць найперш тое, пра што ён натхнёна і захоплена піша (краса роднае Беларусі, нялёгкая праца селяніна-хлебароба, трывогі і скупыя радасці сённяшняга жыхара нашай краіны, чарнобыльская навала, святло юнацкага кахання, праблемы чалавечага існавання і г. д.). Аднак у не меншай ступені пра ягоны паэтычны дар гаворыць і тое, як ён піша: з якім творчым майстэрствам, якія сродкі вершаскладання скарыстоўвае, якімі формамі верша валодае..."

Змітрок Марозаў — аўтар вянка вянкоў санетаў. І гэтым шмат сказана. Што да вянка санетаў, то ўзоры гэтай паэтычнай вяршыні ў беларускай паэзіі ёсць. І іх нямала. Першыя вянкі санетаў належаць Міхасю Кавылю і Алесю Салаўю — паэтам беларускага замежжа. У беларускай савецкай паэзіі, як сведчыць В. Рагойша, першы вянок санетаў напісаў Ніл Гілевіч ("Нарач", 1967). Іншая справа — вянок вянка санетаў. Тут роўных Змітраку Марозаву няма.

Пяру паэта, празаіка і публіцыста З. Марозава належыць амаль паўтара дзесятка кніг (дакладней — чатырнаццаць, адна з кніг вершаў — "Огонь и жито" — выйшла ў перакладзе на рускую мову). Акрамя васьмі вершаваных зборнікаў ім напісана тры кнігі, адрасаваныя дзецям, — "Азбука агранома Валошкі", "Пра гарох і буракі, бульбу, жыта, агуркі", "Гэта праўда ці мана?"

Дарэчы, не лішне было б прачытаць іх і дарослым. Асабліва — татам і матулям дашкалят. Навошта? Ды хаця б дзеля таго, каб расказаць сваім дзеткам пра збожжа і гародніну, пра тое, з якімі сакрэтамі трэба сябраваць, працуючы на зямлі, рупячыся пра добры ўраджай.

Асобная старонка ў творчасці Змітрака Марозава — грунтоўная, цікавая кніга публіцыстыкі "І скажуць унукі". Адметнасць зборніка нарысаў найперш у тым, што аўтар даследчана, з павагай піша пра людзей, якія ўкладваюць жыццё ў клопаты пра зямлю-карміцельку.

"Баліць душа па Беларусі" — новая кніга паэзіі З. Марозава. І хаця, здавалася б, назва ў зборніка дужа патэтычная, грамадзянская, усё ж кніга атрымалася досыць ціхая, лагодная, лірычная. Разам сабрана шмат вершаў, якія пры розным прачытанні падаюцца рознымі сімваламі. Як, прыкладам, і гэты верш, што пачынае кнігу, адкрывае першы раздзел — "Сляза жывіцы".

**Мокры грак сумуе на бярозе,**
**Таямніча-чорны, як манах.**
**Па пракіслай восеньскай дарозе**
**Крочыць цётка з дзіцем на руках.**

**Хто яна яму! Бабуля! Матка!**
**І куды, самотная, ідзе!..**
**Моцна спіць у скрутку немаўлятка.**
**Дождж імжыць. Канае золкі дзень.**

**Змрок начны гусцее над палямі.**
**Недзе там, за посцілкай імжы,**
**Свецяць вёска цёплымі агнямі**
**Для жаночай стомленай душы.**

Галоўнай гераіняй паэзіі для Змітрака Марозава застаецца Беларусь, Айчына. Як і ў ранейшых кнігах. Ды толькі пра роднае і вечнае піша, развакжае мастак слова пранікліва, глыбінна, сягаючы ў нетры павагі і любові. Вось калі ўпэўніваешся, што шчырасць, сапраўднасць нечага вартыя ў звязку з нешматслоўнасцю, лаканічнасцю.

Сімпатыі да вершаў З. Марозава шырыць і тое, што паэт імкнецца абвастрыць наш боль, піша адкрыта, з крыўдай на самога сябе.

**Я перажыў сябе самога**
**На век, а мо на сто вякоў!..**
**Гне долу крыж майго былога,**
**Няма ў наступнае шляхоў.**

**Брыду прыніжаны, праклятая,**
**Нясу свой крыж з апошніх сіл...**
**Крывёй забітых і распятых**
**Зямны заліты небасхіл.**

Ёсць у новай кнізе З. Марозава і вянок санетаў — "Вянок Беларусі". Па-свойму, не азіраючыся на творцаў-папярэднікаў, паэт адкрывае "Беларусь, сляэіначку планеты". Што прываблівае, прыцягвае ў санетах Марозава? Найперш — пяшчота, што знітоўвае, яднае радкі, строфы, санеты, звязвае іх у вянок.

**На развітальным выдыху жыцця**
**Хачу цябе, Радзіма, вольнай бачыць,**
**Каб за мяжой халоднай забыцця**
**Ніхто мой лёс не здолеў перайначыць.**

**Жадаю зліцца з музыкай лісця,**
**З крывёй Браслін Жывых — і не інакш...**
**Не трэба мне дарункаў набыцця,**
**Няхай бярозка нада мной паплача.**

...Няўважлівы да паэзіі сучаснік павінен усё ж некалі прачнуцца. Здарыцца такое — першая яго ўвага будзе адрасавана зямной, трывалай і шчырай паэзіі такіх мастакоў, як Змітрок Марозаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

МАЗЫРСКАЕ МУЗЫЧНАЕ



**Васіль ГАЛАВАН (на здымку) займаецца па класу фартэпіяна ў Мазырскім музычным вучылішчы, студэнты якога, набываючы веды самі, адначасова становяцца выкладчыкамі для навучэнцаў мясцовай музычнай школы.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**ВОДГУЛЛЕ**

## ФОТАЗДЫМКУ — СОРАК ГАДОЎ

З вялікай цікавасцю і захапленнем прачытаў успаміны нашай вялікай паэткі Ларысы Геніюш "Сто ранаў у сэрца", якія былі змешчаны ў трох нумарах "Голасу Радзімы" (№№ 49, 50, 51). Хачу шчыра падзякаваць за публікацыю і каментарый Яніне Кісялёвай. Матэрыял гэты даволі каштоўны, своечасовы і варты ўвагі даследчыкаў, пісьменнікаў і ў першую чаргу землякоў паэткі. Мне спадабалася, што ўспаміны Ларысы Геніюш былі аздоблены фотаздымкамі. Некаторыя з іх убачыў упершыню. На жаль, пад здымкам, які змешчаны ў № 49, зусім няправільны подпіс. Там напісана, што гэта "здымак з пражскага перыяду жыцця Ларысы Геніюш". Але гэта зусім не так. Гэты фотаздымак быў зроблены ў Зэльве ў 1957 годзе. На ім змешчаны Янка і Ларыса Геніюшы (крайнія справа), злева стаіць у паліто вязень сталінскіх лагераў, паэт і краязнавец Васіль Супрун. Сядзіць побач з Ларысай Антонаўнай яе сяброўка-аўрэйка па ГУЛАГу (прозвішча невядомае), а за ёю стаіць яе муж (прозвішча таксама ўстанавіць не ўдалося). Яны праездам на адзін дзень завіталі ў Зэльву да Геніюшаў. У гэты час у іх гасцяваў Васіль Супрун. Вось усім разам і ўдалося сфатаграфавацца на памяць. Як бачыце, гэтаму фотаздымку ўжо сорак гадоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

А ўвогуле ў асвятленні гісторыі Беларусі — краіны высокай старадаўняй цывілізацыі — былі перакосы, многія пласты не былі толкам узняты, асноўная ўвага аддавалася апошнім дзесяцігоддзям. Не адразу ў належнай меры была засвоена нашымі даследчыкамі даволі багатая польская краязнаўчая літаратура старых часоў. Укладальнікаў "Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" па Гродзенскай вобласці (1986) Дабраўляны (вёска ў Сыраваткінскім сельсавеце Смаргонскага раёна) зацікавілі толькі абеліскам, пастаўленым у нашы дні ў памяць аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, як быццам нічога вартага ўвагі ў іншыя эпохі там не было.

А між тым ужо ў 1984 годзе выйшла, можна сказаць, адкрывальніцкая кніга Генадзя Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стагоддзях", у якой — няхай адным, але надзвычай ёмістым абзацам — на агульным выдатна распрацаваным фоне пазначана і вельмі цікавая, багатая гісторыя Дабраўлянаў. Вось тады я і адкрыў для сябе, што сувязь Марцінкевіча з Дабраўлянамі не была выпадковай, што за гэтым хаваўся новы, невядомы, шматабяцаючы пласт яго біяграфіі.

Праўда, у Каханоўскага гаварылася пра Дабраўляны Гюнтэраў, а не Бучынскай, тым не менш прыведзеныя даследчыкам звесткі не маглі не зацікавіць гісторыкаў літаратуры. Трэба было абавязкова правесці адпаведную разведку.

І вось што выявілася.

Гэты маёнтак, непадалёк ад Вішнеўскага возера, вядомы з XVI стагоддзя. Валодалі ім у розныя часы Зяновічы, Сангушкі, Абрамовічы і інш. Але мы ў самую глыбокую прорву часу сёння не палезем. Пачнём з таго, што Дабраўляны набыў у 1818 годзе багаты асвечаны памешчык Адам Гюнтэр (1782—1854). Яго поўнае прозвішча — Гюнтэр фон Гейдэльсгейм — нагадвала пра далёкага продка, выхадца з Рэйна, які служыў яшчэ каралю Яну Сабескаму і тады ж прыблукаў аднекуль з-пад Вены ў Літву-Беларусь. У 1808 годзе Адам Гюнтэр атрымаў пацвярджэнне графскага тытула ў Расіі. Яго жонка таксама паходзіла з арыстакратычнага роду Тызенгаўзаў. І прытым добра малявала, была artystka (мастачка; у дачыненні да Аляксандры Тызенгаўз-Гюнтэр нашы даследчыкі часта перакладаюць гэтае слова літаральна — артыстка).

Адам Гюнтэр меў маёнткі на Міншчыне, у 1812 годзе ўваходзіў у мясцовую напалеонаўскую адміністрацыю, быў наглядчыкам вайсковага шпіталя ў Мінску. Пасля вайны старшынстваваў у мінскім галоўным судзе, адначасова быў членам модных тады масонскіх ложаў "Шчаслівае вызваленне" і "Шчыры ліцвін", кавалерам мальційскага ордэна. Эмблемай ложы "Шчаслівае вызваленне" служыў разарваны ланцуг. Сапраўды, матэрыяльна і духоўна Гюнтэр быў чалавекам досыць незалежным, свабодным. І дэмакратычным, наколькі гэта магчыма было арыстакрату. Ён атрымаў добры зарад духоўнасці ў Віленскім універсітэце, цаніў раскаванае, дасціпнае слова, быў членам-заснавальнікам асветніцкага Віленскага тыпаграфічнага таварыства, не цураўся шубраўцаў — заўзятых тагачасных забіякаў-"нефармалаў".

Дабраўляны — колішнюю рэзідэнцыю князёў Сангушкаў — Адам і Аляксандра Гюнтэры ператварылі ў куток высокай культуры. Па праекце архітэктара Барэці, запрошанага з Вільні, перабудоўваецца стары палац, атрыманы ад ранейшых уладальнікаў у надзвычай запушчаным, напаўразбураным выглядзе. Дом напоўніўся рэдкімі кнігамі і рукапісамі, выдатнымі палотнамі айчынных (Арлоўскі, Дамель, Норблін, Рустэм, Смуглевіч, Чаховіч) і замежных майстроў. Сярод палотнаў вылучаўся, да прыкладу, напісаны Смуглевічам партрэт кашталяншы Агінскай, якая "ў трубачку" сагнула пальцамі сярэбраны талер, калі ўласных дзяцей, каб забраць у яе маёнтак, абвінавацілі ў нямоглаці. Твор яшчэ раз нагадваў, што і ў магнацкім жыцці не ўсё ішло гладка. З іншых рэдкасцяў гаспадары асабліва ганарыліся рукапісам "Гражыны" з байкай "Сабака і воўк" у канцы (аўтограф самога Адама Міцкевіча).

У ніжнім паверсе палаца месцілася адмысловая капліца, якая адначасова была своеасаблівым гістарычным музеем. Ля ўваходу ў яе застылі закутыя ў жалеза сярэднявечныя рыцары. Распісваў капліцу вядомы мастак Казімір Бахматовіч, вучань Рустэма. Ёсць звесткі, што і паходзіў Бахматовіч з дабраўлянскіх сялян. На жаль, мастак рана, у 1837 годзе, памёр (пахаваны на могілках у Свіры). Ад яго, між іншым, асталася серыя літаграфій "Дабраўляны" — мастакоўская падзяка гэтаму кутку беларускай зямлі.

Уладальнік Дабраўлянаў быў заўзятым калекцыянерам, збіраў аўтографы знакамітасцяў, малюнкі, тэатральныя праграмы і іншыя культурныя памяткі, якія складалі так званыя "Тэкі Гюнтэра". Усяго было шаснаццаць гюнтэраўскіх "Тэкаў", якія інакш — па звычаі таго часу — з-за сваёй стракатасці, разнастайнасці, багацця зместу называліся па латыні "Silva rerum" ("Лёс рэчаў").

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**



**НА ЗДЫМКУ:** палац у Дабраўлянах. З літаграфіі К. Бахматовіча.

**(Працяг будзе).**

## НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

Цудоўны падарунак для дзяцей к Новаму году зрабілі супрацоўнікі часопіса "Вясёлка" і выдавецтва "Красіка-прынт". Іхнімі намаганнямі ўбачыла свет багата ілюстраваная і змястоўная кніжка "Нам засталася спадчына". У ёй сабраны арыгінальныя творы — у прозе і вершах — па гісторыі і культуры нашай краіны, якія на працягу шэрагу апошніх гадоў друкаваліся ў "Вясёлцы" пад рубрыкай "Наша спадчына". У кнізе тры раздзелы. З першага — "З Богам у сэрцы" — маленькія чытачы даведаюцца, адкуль пайшлі беларусы, пра іхнія святыні і сімвалы, духоўныя скарбы і святы: Каляды, Вялікдзень, Купалле, Дзяды. У другім раздзеле кнігі, які мае назву "Постаці", — творы пра слынных людзей нашага краю: ад Рагнеды і Усяслава Чарадзея праз усю гісторыю да Максіма Гарэцкага і Рыгора Шырмы. Апошні раздзел — "Дзе мы жывём" — апавядае пра ўзнікненне гарадоў і паселішчаў, паходжанне іх назваў. Сярод аўтараў, творы якіх склалі гэтую кніжку, — пісьменнікі, журналісты, мастакі. А днямі ў сталічным Доме літаратара адбылася яе прэзентацыя. У гэтым свяце ўдзельнічалі аўтары, выдаўцы і чытачы. Цёплa сустрэлі вучні выступленні Юрася Свіркі, Уладзіміра Ягоўдзіка, Сяргея Тарасава, Міколы Маляўкі і іншых. Тонкае веданне дзіцячай псіхалогіі дазволіла пісьменніку, галоўнаму рэдактару часопіса "Вясёлка" Уладзіміру Ліпскаму ўтрымліваць увагу такой няўрымслівай і шматлікай аўдыторыі школьнікаў. Цікавую канцэртную праграму пад назвай "Квітней, Беларусь" паказаў на прэзентацыі ансамбль "Каляровыя гарошкі" сярэдняй школы № 32 Мінска.

Амаль усе дзеці набылі кніжку і, шчаслівыя, пакідалі ўтульную залу Дома літаратара.

Ірына ЛЯКСЕЕВА.

**АД РЭДАКЦЫІ:** *"Голас Радзімы" мае намер на працягу 1997 года знаёміць сваіх замежных чытачоў з паасобнымі публікацыямі, сабранымі ў гэтай цудоўнай кніжцы. Яны будуць з'яўляцца на гэтым месцы. А сёння першы матэрыял з кнігі "Нам засталася спадчына".*




## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ БЕЛАРУСЫ

Сяргей ТАРАСАЎ

Пра тое, адкуль пайшлі беларусы, ёсць старадаўняе паданне. Жыў на свеце чалавек па прозвішчу Бай. Была ў яго вялікая сям'я. Надышоў час Баю паміраць. Сабраў ён сваіх сыноў і падзяліў між імі маёмасць. Толькі аднаго сына запамятаваў, бо той якраз быў на паляванні са сваімі любімымі сабакамі. Звалі сына Белаполем.

Пасля смерці бацькі вярнуўся Белаполь з палявання. Браты яму і кажуць: "Бацька аддаў нам усю маёмасць, а табе пакінуў сабак ды наказаў, каб ты пусціў іх на волю. Аднаго — у правы бок, другога — у левы. Колькі зямлі абабягуць за дзень, столькі і будзе тваёй".

Пайшоў Белаполь і злавіў дзвюх птушак: адну, што прыляцела з паўднёвага мора, другую — з мора паўночнага. Выпусціў птушак у розныя бакі, а наўздагон пусціў сабак. Тыя з такім імпэтам кінуліся за птушкамі, што аж пыл закурэў. І па сённяшні дзень іх няма. А па іх слядах дзве рэчкі пацяклі: у адзін бок — Дзвіна, у другі — Дняпро.

Вось на гэтых абшарах Белаполь і пасяліўся. Ад розных жонак у Белаполя пайшлі розныя плямёны пад найменнем беларусы. Яны і дагэтуль тут ходзяць, зямельку аруць ды жыта сеюць.

У кожным паданні ёсць зярнятка праўды. Так, беларусы склаліся ў адзіны народ з розных плямёнаў. Больш за паўтары тысячы гадоў назад на абшарах нашай краіны рассяліліся славяне: крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Побач з імі жылі старажытныя балцкія плямёны — продкі сучасных літоўцаў і латышоў. Але славянаў было больш. Яны мелі высокую культуру і таму здолелі аб'ядніаць вакол сябе розныя плямёны. З цягам часу асобныя княствы — Полацкае, Тураўскае, Гарадзенскае, Менскае — аб'ядналіся ў адну буйную дзяржаву, якую назвалі Вялікім княствам Літоўскім. Літоўскім таму, што цэнтрам дзяржавы стаў горад Навагрудак — сталіца тагачаснай Літвы, і ўсе вялікія князі паходзілі з гэтых зямель. Межы дзяржавы, як і ў паданні, раскінуліся ад Балтыйскага мора да Чорнага. І называлі сябе нашы продкі ў тыя часы ліцвінамі.

Беларусамі ж мы назваліся не самі. Імя нам далі суседзі. Яшчэ ў даўнія часы заходнееўрапейскія падарожнікі, складальнікі летапісаў і хронік пачалі называць нашу краіну Белай Руссю. Чаму так здарылася, дакладна ніхто не ведае. Адны кажуць, што белая — ад колеру льняной вопраткі і светлых валасоў. Іншыя сцвярджаюць, што белая — значыць вольная. Сапраўды, белы колер ва ўсе часы быў сімвалам свабоды духу, незалежнасці, высокіх хрысціянскіх памкненняў. Белы — колер Хрыста.

Беларуская дзяржава — ад часоў Полацкага княства і да заваёвы Вялікага княства Літоўскага Масквою — праіснавала амаль тысячу гадоў. Таму еўрапейцы, якія ўсю Усходнюю Еўропу ведалі як Русь, нашы землі з асаблівай павагаю называлі Белай Руссю. Спрыяла гэтаму і наша нацыянальная, дзяржаўная сімволіка. Белы сцяг з чырвоным пасам — сімвал незалежнасці, якую даводзілася бараніць і адстойваць цаною народнай крыві.

Сёння Беларусь займае межы значна меншыя, чым у часы Белаполя, калі беларусы толькі пачалі сяліцца тут. Але ўсе мы памятаем наша супольнае паходжанне і павінны шанаваць нашу багатую гісторыю. Гэта — наша вечная спадчына.

## КАБ УТУЛЬНЕЙ БЫЛО ЖЫЦЬ...

Нядзіўна, што гандлёвая марка "Беларускія шпалеры" набыла шырокую вядомасць і ў Беларусі, і за яе межамі, а прадукцыя мінчан сваёй якасцю і разнастайнасцю заваявала папулярнасць у спажыўцоў.

У новым годзе, як і ў мінулым, фабрыка па-ранейшаму будзе радаваць пакупнікоў у краіне, у блізкім і далёкім замежжы добрым таварам. Усе, хто цэніць хатні камфорт, змогуць задаволіць свой самы вытанчаны густ: мінскія шпалеры выпускаюцца больш чым 100 малюнкаў, вызначаюцца шырокай колеравай гамай і разнастайнасцю дызайна. Яны прызначаны для гасцінай і кухні, пярэдняга пакоя вашага дома і для офісаў. І, зразумела, галоўнай вартасцю шпалераў мінскай фабрыкі застанецца іх высокі мастацкі ўзровень і даўгавечнасць. Прыгажосць выратуе свет, гаварыў класік, ва ўсякім выпадку — хатні, дадасць сучаснік, прыгажосць, створаная дызайнерамі фабрыкі "Беларускія шпалеры".

**НА ЗДЫМКАХ:** мастакі-дызайнеры Таццяна ФУНЦІКАВА (злева) і Вера АТРОШЧАНКА; узор мінскіх шпалераў.

Тэкст і фота Віктара СТАВЕРА.





## СМАЧНА ЕСЦІ

### КАТЛЕТЫ КАПУСНЫЯ З ЯБЛЫКАМІ

Свежую капусту дробна нашынкаваць і крыху паварыць у малацэ, дабавіўшы ваду. У гатовую капусту, не здымаючы з агню, пакласці абабраныя дробна нарэзаныя яблыкі, манныя крупы, перамяшаць, паварыць яшчэ 10 мінут, пасаліць, дабавіць яйка. Сфармаваць катлеты, абваляць у сухарах, падсмажыць.

На 800 грамаў капусты 1 шклянка малака, 150 грамаў яблык, 60 грамаў манных круп, 1 яйка, 40 грамаў паніровачных сухароў, 50 грамаў сметанковага масла, соль.

### КАПУСНІК З ГРЫБАМІ

Квашаную капусту тушыць да гатоўнасці ў невялікай колькасці грыбнога булёну, дабавіўшы крыху цукру. Асобна ў кіпячы грыбны булён пакласці бульбу, тушаную капусту, вараныя шынкаваныя грыбы, злёгку пасераваныя карані і цыбулю, лаўровы ліст, перац горкі і варыць да гатоўнасці.

### ГРЫБНЫ ПАШТЭТ

150 грамаў сушаных грыбоў (лепш белых), зварыць у падсоленай вадзе. Працусціць праз мясарубку, дадаўшы некалькі зубкоў часнаку. Атрыманую масу смажыць на патэльні 3—5 мінут на слабым агні. Затым выкласці грыбны паштэт у міску, паліць маянезам ці смятанай, дабавіць кроп, пятрушку і размяшаць.

### ХУТКІ БІСКВІТ

2—3 яйкі, 1 шклянка цукру, 250 грамаў смятаны, 2 сталовыя лыжкі алею, 1 чайная лыжка соды (пагасіць), каля 2 шклянак мукі.

Яйка расцерці з цукрам, дабавіць смятану, соду, алей і муку. Усё добра перамяшаць, выліць на патэльню. Выпякаць пры тэмпературы 180—200 градусаў.

### ВЕРАШЧАКА

У каструлю наліць вады, хлебнага квасу (у суадносінах 1:1), давесці да кіпення, дабавіць папярэдне падсмажаную, разведзеную вадой пшанічную ці ячную муку і паварыць на працягу 5 мінут. Абсмажыць кавалачкі сала разам з нашаткаванай рэпчатай цыбуляй і сельдэрэем, перакласці ў каструлю, дабавіць соль і паставіць на 5—10 мінут у духоўку.

200 грамаў сала, 2—3 сталовыя лыжкі мукі, 1 шклянка вады, 0,25 шклянкі хлебнага квасу, 1 цыбуліна, 1 корань сельдэрэю, соль.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 111. Падпісана да друку 27.1.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.